ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

15 САКАВІКА 1996 г. № 11 (3835) Кошт 2 500 руб.

## ЛЯЧЫЦЬ ХВОРАГА, А НЕ ХВАРОБУ!

***Павел МІХАЛЕВІЧ: “Нават у ЗША, самай багатай краіне свету, 30 працэнтаў насельніцтва аказалася па-за магчымасцю атрымаць медыцынскую дапамогу. А што ў нас? А ў нас тады толькі 30 працэнтаў людзей і атрымаюць яе, а то і менш”.***

**5, 12**

## ПОСТАЦІ З БАБЧЫНА

***Новыя вершы Міколы МЯТЛІЦКАГА***

**8—9**

## ІДУ СЛУЖЫЦЬ...

***Апавяданне Віктара СУПРУНЧУКА***

**9, 14—15**

## СПАДЗЯВАННЕ НА... ГОНКУ ЎЗБРАЕННЯЎ

***Рычард СМОЛЬСКІ: “Першае, і самае галоўнае, што літаральна грукае ў дзверы, вокны, сцены ўсіх тэатраў Беларусі, гэта — подых “новага надвор’я”. Ва ўсіх сэнсах. Я ўжо падкрэсліваў залежнасць тэатра ад свайго часу, і ад тых, каго называюць “бацькамі нацыі”. Добра, калі “бацька” — кемлівы, разумны, і дальнабачны...”***

**10—11**





# ЁН ЛЮБІЎ ФЛАРЭНЦЫЮ...

Гэта — самая апошняя работа маладога і таленавітага скульптара Валерыя Янушкевіча. Скульптурная кампазіцыя прысвечана Міхалу Клеафасу Агінскаму. У бліжэйшы час яна будзе ўстаноўлена ў Фларэнцыі на адным з дамоў на плошчы Санта Марыя Навэла, дзе са студзеня 1823 г. па 15 кастрычніка 1833 г. жыў і памёр наш славуты суайчыннік. На могілках ля гэтай плошчы ён спачатку быў і пахаваны, але пазней перазахаваны ў царкве Санта Крочэ — сусветнавядомым фларэнційскім “пантэоне”, дзе знаходзяцца магілы многіх славутых асоб, у тым ліку і Мікельанджэла Буанароцці. Дзякуючы намаганням пасла Італіі ў Беларусі сп. Дж. Л. Берцынета, былога міністра замежных спраў РБ сп. П. Краўчанкі, які задумаў ўсталяванне памятнага знака Агінскаму ў Фларэнцыі яшчэ падчас адкрыцця дошкі Скарыну ў Падуі, а таксама фундатару работы — мэру г. Смаргоні сп. Раку, неўзабаве мемарыяльная дошка пакіне сцены майстэрні і зойме падрыхтаванае ёй доўгімі перамовамі месца ў Фларэнцыі.

Мастак, насуперак усім складанасцям часу, працуе беспярапынна і плённа. В. Янушкевічу належаць вядомыя на Беларусі помнік Міцкевічу ў Наваградку, помнік Скарыну ў Лідзе, скульптурныя кампазіцыі ў Нясвіжскім парку ды іншыя. Скульптура, лічыць майстра, па вялікім рахунку — не “малыя формы”, скульптура мусіць жыць у прасторы і зусім не камерным жыццём.

У майстэрні Валерыя Янушкевіча — чарговая распачатая праца: нараджаецца манументальны помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму для Маладзечна...

***Як ні сумна пра гэта казаць, але апошнім часам усе мы, ад малога да старога, не можам пахваліцца бадзёрым настроем і моцным здароўем. Прычын гэтага нямала: і сацыяльна-эканамічны крызіс, які найперш б'е па здароўі людзей, і экалагічная неспрыяльнасць, і шмат што іншае.***

***Сістэма нашай аховы здароўя дае сацыяльныя гарантыі ўсім пластам насельніцтва на бясплатную медыка-санітарную дапамогу. Толькі ж — ці заўсёды задаволены мы гэтай дапамогай? Каму з нас не даводзілася выседжваць гадзінныя чэргі пад дзвярыма то аднаго, то другога кабінета ва ўчастковай паліклініцы, чуць неаднойчы ад урачоў фразу "Вы не наш хворы", выслухоўваць не толькі споведзі такіх самых, як і ты, хворых, але і лаянку, грубасць? Пасля наведання паліклінікі заўсёды чамусьці думаецца: каб нашы дзяржаўныя мужы таксама сядзелі побач з намі ў гэтых чэргах, дык яны, напэўна, зразумелі б урэшце, што ахова здароўя нацыі павінна стаць прыярытэтнай задачай і клопатам дзяржавы.***

***Аднак жа засмучаюць не толькі чэргі ды брыдкія сваркі ў гэтых чэргах. Куды больш засмучае тое, што ў канцы чаргі цябе чакае вельмі часта, нават часцей за ўсё не дапамога, а, скажам гэтак, адчэпка. "Твой" участковы ўрач памерае табе ціск і... адашле цябе да профільнага доктара, і ты, узяўшы паперку-накіраванне, праз хвіліну-другую пакідаеш пакой, каб неўзабаве зноў недзе сядзець у чарзе.***

***Мне асабіста пасля такіх вандровак у паліклініку прыгадваецца штораз адна мясціна з кнігі ўспамінаў Марыэты Шагінян "Чалавек і час", дзе яна згадвае свайго бацьку — вядомага маскоўскага ўрача-клініцыста: "Каб правільна ставіць дыягназ, урач не павінен быць вузкім, гэта значыць тым, што зараз называюць спецыялістам. Зараз развяліся ўрачы, як у клетках, па розных асобных спецыяльнасцях — адзін нос і глотку вывучаў, другі жывот і ныркі, трэці лёгкія, чацвёрты — радзільную справу. Пашлі такую славутасць у вёску, ён не зможа зуб вырваць ці гарачку вызначыць без градусніка, а ўжо дыягназ паставіць — магу пайсці на заклад, нават па сваёй спецыяльнасці не здолее. Каб паставіць правільна дыягназ, трэба добра ведаць увесь чалавечы арганізм і на прыёме зыходзіць з агульнага стану арганізма".***

***Дык які ж павінен быць той урач, да якога звяртаецца перш-наперш захварэўшы чалавек? Пытанне не мною прыдумана. Пытанне жыццём пастаўлена і не сёння ці ўчора. Пытанне ці, больш правільна, праблема гэтая даўно турбуе нашу грамадскасць, у тым ліку і медыцынскую. Адны называюць такога ўрача "сямейным урачом", другія "хатнім", трэція — "урачом шырокага профілю" ці "ўрачом агульнай практыкі" і г.д. За гэтымі назвамі — адна сутнасць: урач, які мог бы аказаць хвораму чалавеку першую кваліфікаваную дапамогу.***

***Аказваецца, праблема гэтая сёння выходзіць ужо са стану дыскусій і абмеркаванняў і набывае абрысы практычнага вырашэння. Прынамсі, робіцца, нават, зроблены ўжо нібыта першыя крокі да гэтага. Як кажуць, свет чуткамі поўніцца. Яны і падштурхнулі мяне на тое, каб пашукаць нейкае пацвярджэнне чуткам. У выніку гэтых пошукаў і адбылася мая сустрэча з акадэмікам Акадэміі навук Беларусі, прафесарам, загадчыкам кафедры ўралогіі Мінскага медыцынскага інстытута Мікалаем Язэевічам САЎЧАНКАМ, галоўным тэрапеўтам Міністэрства аховы здароўя Беларусі, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам Уладзімірам Пятровічам СЫТЫМ і начальнікам Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі, членам калегіі Міністэрства аховы здароўя Беларусі Паўлам Міканоравічам МІХАЛЕВІЧАМ. Гаворку з імі і прапаную ўвазе чытачоў.***

# ЛЯЧЫЦЬ ХВОРАГА, А НЕ ХВАРОБУ!

## ТРЫ ВЯДОМЫЯ МЕДЫКІ ЦАЛКАМ ПАГАДЖАЮЦЦА З ГЭТЫМ

### РАФІНАВАНАЯ СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ

**Карэспандэнт:** — Хацелася б пачуць вашу думку аб праблеме падрыхтоўкі ўрачоў новай сацыяльнай катэгорыі — "сямейных", "хатніх", "шырокага профілю і прызначэння"... Наколькі гэта магчыма ў нас і наколькі гэта сапраўды вострая праблема?

**У. Сыты:** — Праблема спецыялізацыі і інтэграцыі ў медыцыне існуе з моманту інтэнсіўнага развіцця спецыялізаваных відаў медыцынскай дапамогі. Раней сапраўды ўрач аказваў дапамогу хвораму па ўсім спектры пытанняў, што тычыліся медыцыны. Затым адбылася спецыялізацыя гэтай дапамогі. Так, вылучыўся хірург, пасля з агульнаўрачэбнай спецыялізацыі ўзніклі іншыя спецыяльнасці — скажам, тэрапеўты, потым з тэрапіі пачалі выдзяляцца свае спецыяльнасці. На сённяшні дзень толькі ў складзе тэрапіі мы маем 16 спецыяльнасцей. І здавалася, што такая спецыялізацыя, такая тэндэнцыя мае будучыню. Урач-спецыяліст глыбока ведае орган ці сістэму арганізма, у якіх ён спецыялізаваўся. Ён валодае спецыяльнымі методыкамі абследавання хворага, спецыяльнымі методыкамі лячэння. І гэта ўяўлялася выдатнай перспектывай. Калі чалавек захварэў, дык заставалася толькі вызначыць, да якога ўрача яму трапіць. А далей ужо справа рук і ўмельства вось такога высокапрафесійнага спецыяліста ў гэтай галіне медыцыны. Ды, на жаль, рэчаіснасць аказалася больш складанай, чым мы яе сабе ўяўлялі. Што я маю на ўвазе? Урач-спецыяліст глядзіць на хворага — горка пра гэта гаварыць, аднак жа вельмі часта менавіта так яно і ёсць — не як на чалавека, а толькі як на частку яго, на тую частку, так бы мовіць, ягонага цела, якую ён ведае. З кругагляду ўрача-спецыяліста, як мы бачым, выпадае сам чалавек, гэты ўрач лечыць толькі нейкі асобны орган чалавека, а не чалавека. А яшчэ ж з інстытуцкай лаўкі мы засвоілі адну галоўную і найважнейшую запаведзь: "Лячыць хворага, а не хваробу". Як ні шкада, а якраз гэтае першаснае патрабаванне-абавязак мы і страцілі разам з развіццём рафінаванай спецыялізацыі.

Такім чынам, мы ўбачылі, што павінны існаваць іншыя ўзроўні медыцынскай дапамогі. Увесь цывілізаваны свет прыйшоў да высновы, што на першым этапе кантакту ўрача і хворага дастаткова ўрача сямейнага ці хатняга, як яго называюць у некаторых краінах, альбо, кажучы іншымі словамі, урача агульнай практыкі.

### СЯМЕЙНЫ ЎРАЧ? НЕ, УРАЧ АГУЛЬНАЙ ПРАКТЫКІ

**Карэспандэнт:** — Наколькі ідэнтычныя паняцці "сямейны ўрач", "хатні ўрач", "урач агульнай практыкі"? Якое з іх найбольш прыдатнае ў нас?

**У. Сыты:** — Гэта не зусім ідэнтычныя паняцці, але ў дастасаванні да стану нашай медыцыны і нашага грамадства будзем разумець, што гэта адзін і той жа спецыяліст. Той спецыяліст, які ў 75 працэнтах выпадкаў звычайных захворванняў аказвае хвораму на першым этапе досыць кваліфікаваную дапамогу і на дастаткова сучасным узроўні. А далей, калі ён бачыць, што захворванне больш складанае і яму не ўдаецца правесці дыферэнцыраваны дыягназ, — тады ўжо ён сам вызначае патрэбнасць гэтаму хвораму вузкага спецыяліста. І адпадае патрэба ў існуючай сёння іерархіі: маўляў, спачатку хворага трэба накіраваць у раён, затым — у вобласць і толькі потым — у цэнтр. Урач агульнай практыкі вызначае адразу, хто патрэбны гэтаму хвораму, і калі трэба, сам накіруе яго ў суперсучасны цэнтр на абследаванне. А што сёння атрымліваецца? Сам хворы, калі яму забалела ў грудзях, павінен думаць, куды яму ісці: ці то да неўрапатолага, ці то да кардыёлага; а калі забаліць паясніца, дык ісці, зноў жа, да неўрапатолага ці да нефролага. Як бы мы ні спецыялізаваліся, але той самы нефролаг павінен ведаць і сумежныя хваробы. Таму вось такога ідэальнага абслугоўвання хворага пры гэтай вузкай спецыялізацыі на першым этапе дасягнуць проста немагчыма. А паглядзіце, што ў нас робіцца ў спецыялізаваных аддзяленнях бальніц. Колькі там няпрофільных хворых! У кардыялогіі ляжаць неўралагічныя хворыя, не кажучы ўжо пра пацыентаў з захворваннямі органаў дыхання і г.д., і наадварот. І вось хворы чалавек трапляе ў "няпрофільнае" аддзяленне, доўга там абследуецца, бо вузкаспецыялізаваны ўрач не мае вопыту работы з такім хворым, і праходзіць доўгі час, пакуль нарэшце гэты бедалага атрымае кваліфікаваную дапамогу, адэкватную ягонаму стану.

Усё гэта і сталася прычынай таго, каб мы зноў звярнулі свой погляд на падрыхтоўку агульнапрактыкуючага — скажам так — урача.

**П. Міхалевіч:** — Чаму я асабіста за ўрача агульнай практыкі? Участковы ўрач у нас, на жаль, ператвораны ў дыспетчара. Калі вы самі не вызначыліся, да якога спецыяліста ісці, ён вас накіруе да яго. І толькі. Урач жа агульнай практыкі вядзе пацыента сам пры любой паталогіі, у межах таго, наколькі ён падрыхтаваны і дзе не патрабуецца прыцягненне іншых сумежных спецыяльнасцей, такіх, як, напрыклад, хірург, траўматолаг, артапед і г.д. Ды і то ён прысутнічае пры кансультацыях з гэтымі спецыялістамі альбо, у горшым выпадку, блізка знаёміцца з іх заключэннямі. Урач агульнай практыкі можа наведаць "свайго" хворага ў стацыянары, прасачыць і пракантраляваць працэс яго лячэння.

Сусветная арганізацыя аховы здароўя прыняла прынцып выкарыстання ўрача агульнай практыкі, а не сямейнага ці хатняга. Сямейны ўрач — гэта ўрач вельмі багатага грамадства. А якое сёння грамадства ў нас, гаварыць не даводзіцца.

**М. Саўчанка:** — Мы таксама ставім пытанні аб увядзенні і падрыхтоўцы ўрача агульнай практыкі. Ён павінен умець разабрацца з асноўнымі захворваннямі чалавека, павінен ведаць сімптаматыку гэтых захворванняў, паставіць пярвічны дыягназ. Я гэта называю "пабудовай правільнага медыцынскага маршруту". Урач агульнай практыкі для нас — новае сацыяльнае паняцце. Ён павінен увайсці ў сям'ю, быць там не толькі доктарам, але і сябрам сям'і, дарадцам. У сувязі з гэтым я стаўлю пытанне так: "Сям'я, як аб'ект для ўролага", "Сям'я, як аб'ект для неўрапатолага" і г.д. Нарадзілася, скажам, у сям'і дзіця, у яго могуць быць самыя розныя ўралагічныя захворванні, розныя анамаліі, якія павінен заўважыць гэты сямейны ці агульнапрактыкуючы ўрач.

### ПАДРЫХТОЎКА ЎРАЧА І ЯГО АДАПТАЦЫЯ

**Карэспандэнт:** — Дык, значыць, урачы агульнай практыкі ў нас рыхтуюцца?

**У. Сыты:** — Перш-наперш адзначу, што ўзровень падрыхтоўкі ўрачоў у нашых медінстытутах даволі высокі і адпавядае агульнаеўрапейскаму. А што да вашага пытання, дык мы яшчэ ў 1992—93 гадах, натхнёныя ідэяй урача агульнай практыкі, аб'ядналі ў медінстытутах падрыхтоўку ўрачоў-тэрапеўтаў і педыятраў. Наша Міністэрства аховы здароўя робіць стаўку на выкарыстанне ўрача агульнай практыкі. З гэтай мэтай ужо сёлета будзе зроблены першы выпуск такіх урачоў. А ў інстытуце ўдасканалення ўрачоў будзе праводзіцца цыкл лекцый па спецыяльнай праграме, якая распрацавана з улікам таго, каб урач такога, скажам, сямейнага профілю меў дыягнастычныя і лячэбныя навыкі як урач-гінеколаг, урач-тэрапеўт, урач-хірург і іншых сумежных спецыяльнасцей.

**Карэспандэнт:** — Ці не здарыцца так, што ўрач агульнай практыкі, які павінен ведаць і ўмець "усё", на самай справе, як у нас часта бывае, не будзе ведаць толкам нічога?

**М. Саўчанка:** — Вы гэта правільна заўважылі. Ёсць такі выраз: "Урач павінен ведаць нямнога пра ўсё і ўсё пра нямногае". Здаецца, і пра журналістаў гэта самае кажуць... Дык вось, "нямнога пра ўсё" — гэта і ёсць урач агульнай практыкі. Ён павінен умець паставіць дыягназ, аказаць пярвічную дапамогу пры любых захворваннях. Я чытаю курс у медінстытуце і адразу папярэджваю студэнтаў: "Паважаныя калегі, я не буду рабіць з вас уролагаў, я хачу ўзброіць вас хоць крыху сеціятычнага раду ведамі, каб вы зналі, з чым вы сустрэнецеся ў сваёй рабоце, каб вы ўмелі выпытаць у хворага ўсё пра яго хваробу, паставіць правільны дыягназ і параіць, што хвораму рабіць далей". Тэхнічная ўзброенасць змянілася кардынальна, пухліны нырак, напрыклад, калі хвораму яшчэ нават нічога і не баліць, з дапамогай апаратуры павінен бачыць урач агульнай практыкі. Вядома ж, гэты ўрач павінен разам з тым скончыць і засвоіць нармальную праграму медінстытута з улікам асаблівасцей будучай сваёй работы.

**П. Міхалевіч:** — У нас у рэспубліцы ўжо на працягу трох гадоў сяк-так праводзіцца гэты эксперымент. Важна, вядома, падрыхтаваць такога ўрача, але не менш важна і ягоная адаптацыя ў існуючай сістэме аховы здароўя. Калі яго накіраваць у нашы паліклінікі, дык літаральна праз паўгода ён ператворыцца зноў-такі ва ўчастковага тэрапеўта. Механізм адаптацыі знаходзіцца ў прамой залежнасці ад палітыкі мясцовых органаў у сістэме аховы здароўя. Урач агульнай практыкі павінен мець свой кабінет у тым доме, у тым жыллёвым масіве, дзе жывуць ягоныя пацыенты. Тут можна заўсёды прадугледзець 2-х ці 3-х пакаёвыя кватэры для размяшчэння такой "сямейнай" паліклінікі. Урач тут будзе працаваць з двума, трыма сярэднімі медработнікамі. Сёння медсястра ў нашых паліклініках часцей за ўсё выконвае ролю статыста: выпіша рэцэпт, нешта прынясе, нешта падасць. Гэта зусім не тое, чаму яе вучылі тры гады ў вучылішчы. Павінны быць значна пашыраны функцыі сярэдняга медперсаналу. І яшчэ: урач агульнай практыкі павінен мець пад рукой увесь неабходны мінімум дыягнастычных магчымасцей. Я асабіста праціўнік ставіць адразу дыягназ з дапамогай апаратуры. Гэта ракавая памылка нашых медыкаў, якая часта вядзе да сумных наступстваў. Трэба, каб дыягназ ставіў урач, а апаратура пацвярджала яго альбо выключала.

Урач, які б ён ні быў, не можа быць, працаваць сам па сабе. Ён, так сказаць, вызначаецца, акрэсліваецца той сістэмай аховы здароўя, у якой працуе. Мы працуем па беверыджаным прынцыпе, адаптаваным да нашых умоў яшчэ М. Сямашкам. Гэта сістэма цэнтралізаванага кіравання, размеркавання і кантролю па прынцыпе вертыкалі. Доўгія гады яна нас задавальняла, бо з'яўлялася самай гарантаванай, забяспечвала даступнасць медыцынскай дапамогі ўсім пластам насельніцтва. Аднак яна прадугледжвала і дакладнае бюджэтнае фінансаванне, чаго не скажаш пра апошнія гады. Летась фінансаванне аховы здароўя забяспечвалася толькі на 60 працэнтаў, сёлета — не лепш. А ўрач агульнай практыкі (сістэма, у якой ён можа існаваць) вымагае зусім іншай, новай схемы фінансавання, змешанай, якая будзе ўключаць бюджэтнае, страхавое, прыватнае (спонсарскае) фінансаванне.

### ХТО ПЛАЦІЦЬ БУДЗЕ?

**Карэспандэнт:** — Ці не апынецца ў выніку большасць насельніцтва наогул без медыцынскай дапамогі? Ужо і сёння дарагавізна медыкаментаў стала непераадольным бар'ерам між аптэкай і хворымі... І як хутка мы будзем лячыцца ва ўрача агульнай практыкі?

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЖАНЧЫНА — АД СЛОВА АЙЧЫНА...



**Сапраўды велізарную даніну ў розныя часы свайго існавання ўсклалі на ахвярны алтар беларускай Культуры і Гісторыі жанчыны — нашыя апосталкі Беларушчыны.**

**Ефрасіння Полацкая, Рагнеда, Эмілія Плятар, Марыя Ямант, Алаіза Пашкевіч, Канстанцыя Буйло, Уладзіслава Луцэвіч, Ларыса Геніюш, Яўгенія Янішчыц — гожы і годны пантэон слаўных дачок Маці-Беларусі, чые імёны з такой удзячнасцю і цеплынёй узгадваліся падчас вечарыны, што адбылася 28 лютага ў "Беларускай хатцы".**

**Вельмі прыемным перадсвяточным падарункам для жаночай паловы гасцей доміка Максіма Багдановіча стала выступленне паэта Леаніда Дранько-Майсюка. Як і заўсёды тонка і нязмушана вёў размову наш слынны знаўца Хараства аб Жанчыне і Каханні, аб Вернасці і Здрадзе, аб Давыд-Гарадку і Парыжы...**

**Падтрымаць атмасферу "на ўзроўні таршэрнага святла" на працягу вечарыны паэту дапамагаў гітарыст Кірыл Успенскі — студэнт кансерваторыі Акадэміі музыкі.**

**"Стомленасць Парыжам" — так Леанід назваў свой чарговы зборнік — не расчаравала шматлікіх прыхільніц ягонага таленту. Наадварот, напрыканцы вечарыны яны "не стаміліся" пастаяць у чарзе па аўтограф ад аўтара і яго "аўтарскі" пацалунак.**

**А. КУЛІН**

*На здымку: Выступае Л. Дранько-Майсюк.*

*Фота С. ЛОЙКІ*

## ВЕЧАР ІЗРАІЛЬСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ



**У беларускай сталіцы прайшоў вечар дзіцячай ізраільскай літаратуры, які правяло Пасольства дзяржавы Ізраіль у Беларусі і Камітэт па святкаванні 3000-годдзя Іерусаліма.**

**Вечар прадоўжыў эстафету юбілейных мерапрыемстваў, прысвечаных 3000-годдзю Святога Горада-Іерусаліма. На ім былі аб'яўлены вынікі сусветнага конкурсу "Дзеці Свету малююць Іерусалім". Патрабавальнае журы адабрала 12 лепшых работ (па адной з 12 краін). Сярод іх — карціна "Нябесны Іерусалім" вучаніцы 7 класа з мастацкім ухілам сярэдняй школы N 4 г. Маладзечна Надзі Смальяковай. Надзя адзначана спецыяльным дыпломам і паездкай у Святы Горад Іерусалім.**

*На здымку: Надзя Смальякова са сваім мастацкім кіраўніком Аленай Самойлавай.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

Крытыка

# ПАКУЛЬ СТАІЦЬ НАШ ДОМ...

Калі ў 1917 г. Рудальф Панвіц у кнізе "Крызіс еўрапейскай культуры" ўпершыню даў вызначэнне сучаснага яму чалавека як "постмадэрнага" — стракатай у сваіх памкненнях, не ідэнтычнай сабе, спароджанай суцэльным нігілізмам істоты, нейкай "залатой сярэдзіны паміж дэкадэнтам і варварам", ён наўрад ці ўяўляў сабе, што гэтае найменне, спрычыніўшыся да архітэктуры і філасофіі, гісторыі і літаратуры, сацыялогіі, медыцыны ды шмат чаго іншага, вернецца ў канцы стагоддзя да сваёй зыходнай — да чалавека, у дачыненні да якога (асабліва постсавецкага) яно ніколькі не страціла сваёй актуальнасці. Было шмат спроб прарвацца праз рознааблічнасць і цьмянасць, праз усемагчымыя "скуры" і маскі да чалавека сапраўднага з боку заходняй культуралогіі, цяпер дайшла чарга і да нас. Як на мой погляд, дык кніга Юрася Залоскі "ВЕРСІІ. ШЛЯХ ДА ХРАМА "IDEA SUI" па вялікім рахунку — менавіта адна з гэткіх спроб.

Аб'ектыўна ж кніга, паводле слоў самога аўтара, — плён яго трохгадовай працы, не толькі журналісцкай (пераважна ў "ЛіМе"), але і ўласна творчай, літаратурнай ды і проста свядомаснай. Аб гэтым сведчыць і нязвыклая для нашага чытача, нават крыху экстравагантная архітэктоніка, што пакідае ўражанне ўпарадкаванасці, цэласнасці — але не вонкавага, а глыбока ўнутранага, філасофскага кшталту. Сам Ю. Залоска прызнаецца, што на вызначэнне якраз "нябачнай унутранай сувязі паміж тэкстамі... былі скіраваны асноўныя намаганні" аўтара. І не дзіўна: ужо сумяшчэнне розных жанравых форм, ім скарыстаных, патрабуе ад чытача пэўных высілкаў, але і дапамагае, бо па-свойму правакуе на пошук аб'яднальнага пачатку.

У кнізе задзейнічаны эсэ, дыялогі, фрагменты дзённіка, журналісцкія нататкі, газетная хроніка, цытацыя. Надзвычай шырокае і кола праблем, да якіх звяртаецца Ю. Залоска і якія ён акрэсліў у сваім "Уступным аўтографе", вылучыўшы перадусім такія, як "шляхі ўсталявання палітычнай незалежнасці; роля мастацтва ў пабудове гуманістычнага грамадства; лёс мовы; праблемы літаратуры і мастацкай культуры; сучаснае беларускае мысленне і светапогляд"... Кожная з гэтых праблем надзвычай маштабная і аб'ёмная, а ў сукупнасці яны ўяўляюць сабой кола пытанняў, над якімі раней ці пазней павінен задумацца чалавек, калі ён толькі ўвогуле здатны на тое, каб — задумацца. Тут ёсць усё, што можа тым ці іншым чынам займаць культуралагічную думку, што складае гэтак званы "жыццёвы свет" (вельмі ж прыдатнае паняцце ёсць для такіх выпадкаў у нямецкай філасофіі — "Zebenswelt"), найперш — беларускі, часава і нацыянальна ў кнізе дастаткова канкрэтызаваны, але пазначаны пярэйсцем да проста чалавечага ва ўсіх яго найважнейшых параметрах, да **ўсечалавечага.** Што такое культура і ў якой ступені залежыць дзяржаўнасць ад культурнасці — у вышэйшым сэнсе слова — кожнага насельніка краіны, кожнага жывога складніка той ці іншай людской супольнасці; у якой меры культура ёсць плён намаганняў асобы і ў якой — калектыўнай свядомасці? Наколькі апраўданы і ўвогуле ці апраўданы грамадскія катаклізмы з хоць бы "аднойадзінай ахвярнай чалавечай крывінкай" на шляху да незалежнасці? Як адбываецца ператварэнне масы, натоўпу ў народ і нацыю? Што ёсць эліта нацыі, у прыватнасці — беларускай? Дзе праходзіць мяжа паміж сапраўдным асветніцтвам і псеўданавуковым? У якой ступені патрэбна ў жыццядзейнасці чалавека спалучэнне новага са знаным, што з гэтага знанага, але да канца духоўна не спажытага вартае нашага ўспрымання і пераймання? Што ёсць памяць і ці можна разумець яе як "усведамленне прысутнасці асобы, з'явы, падзеі ў сучаснай культуры і гісторыі"? Наколькі ментальнасць народа праяўляецца сёння, зараз, і наколькі яна можа быць сцёртая тымі ці іншымі абставінамі яго існавання? З гэтых і іншых праблем ці не самая, на мой погляд, галоўная — праблема стасункаў асобнага, прыватнага чалавека з рэчаіснасцю, ці антырэчаіснасцю, якой яна сталася ў нашым стагоддзі. Вышэйшыя каштоўнасці занадта падуладныя сіле гравітацыі, і чалавеку цяжка нават праводзіць мяжу паміж абсалютна не ідэнтычнымі ў здаровым разуменні з'явамі, што на працягу стагоддзяў ацэньваліся свядомасцю менавіта як супрацьлегласці ("Unterscheidungsvermöqen"), напрыклад, дыктатура і дэмакратыя, а не тое што валодаць пэўнай "самасцю", індывідуальнасцю, незалежнасцю, жыць, што называецца, па-боску. Ці магчымы асобаснасць, асоба, калі сціраецца падзел паміж традыцыйна несумяшчальным, калі цьмяным становіцца само паняцце апазіцыі? Кажучы словамі аўтара "Версій", "наколькі прынцыповай можа быць для чалавека, сям'і, дзяржавы — патрэба Незалежнасці?" Асабліва ж для чалавека адзінкавага, канкрэтнага, чыё засваенне дыктатуры адбываецца ці не на генетычным узроўні, чыя свядомасць пры гэтым дэфармуецца, а рэшткі асобы, не маючы магчымасці рэалізавацца, здзейсніцца, адчужваюцца ад яе носьбіта і паглынаюцца Яго Вялікасцю Рытуалам.

Разважанні Ю. Залоскі над гэтай праблемай у мяне асабіста выклікалі шмат асацыяцый, у прыватнасці — з публіцыстыкай Вацлава Гавела. Слынны чэх, бясспрэчна, мае рацыю, сцвярджаючы, што для разбурэння таталітарнай сістэмы ў любой яе іпастасі, у тым ліку сучаснай посттаталітарысцкай, яшчэ больш пачварнай, жорсткай і вераломнай, неабходны не радыкальныя сацыяльныя эксперыменты накшталт путчаў, рэвалюцый і змоў, а пераадоленне, кажучы словам В. Гавела, "самадыктатуры". "Покрыва "жыцця ў хлусні", — піша ён у артыкуле "Сіла бяссільных", — зроблена з дзіўнага матэрыялу: да таго часу, пакуль яно наглуха пакрывае ўсё грамадства, здаецца, што яно з каменя; аднак дастаткова ў адным месцы прабіць яго, дастаткова адзінаму чалавеку ўсклікнуць: "Кароль — голы!", і адзінаму гульцу парушыць правілы гульні, тым самы выкрыўшы яе як гульню — і ўсё раптоўна паўстае ў іншым святле, а ўсё покрыва, быццам папяровае, вокамгненна пачне рвацца і распаўзацца". Раней за В. Гавела аб тым жа гаварыў і яшчэ адзін вядомы парушальнік "правілаў гульні" — Дж. Оруэл. Хто не памятае біблейскага кіта, праглынуўшага прарока Іону; апошні маліў кінуць яго ў мора, каб выкупіць віну за буру. У эсэ "Чэрава кіта" Дж. Оруэл перайначвае біблейскі міф, замяняючы матыў ахвярнасці на прама процілеглы — уцёкаў ад свайго абавязку. Чэрава кіта — гэта своеасаблівы прытулак для ўсіх, у чыіх вачах неразумна процістаяць праславутым "абставінам": "Аддайся сузіранню таго, што адбываецца ў свеце, не процідзейнічай, не спадзявайся, нібыта здольны кантраляваць гэты працэс, — прымі яго, прыстасуйся, увасоб". Разважанні Ю. Залоскі — аб гэтай жа небяспецы "уцёкаў"; і ён, і яго шматлікія субяседнікі, напрыклад — В. Быкаў і Н. Гілевіч, лічаць, што ўсё пачынаецца з "паасобкавага" чалавека, з пераадолення ім страху, рабства, "існавання без інтарэсу", з яго найцяжэйшага шляху да ўсведамлення сябе не чымсьці "выбраннікам", а — суб'ектам, аўтарам свайго выбару і свайго жыцця.

"Малая радзіма" — краіна — сусвет — вось яшчэ адна траекторыя разважанняў Ю. Залоскі. Радзіму і бацькоў не выбіраюць, — слушна заўважыў адзін вядомы расійскі пісьменнік. Менавіта родныя мясціны застаюцца для чалавека заўсёдным цэнтрам Зямлі. З гадамі, абжываючы свой лёс, чалавек далучае да родных мясцін усё новыя — вялікія і малыя, блізкія да сваіх і дужа экзатычныя, але твой асабісты зямны цэнтр ад гэтага нікуды не перамесціцца. Як для Ю. Залоскі, дык удалечыні толькі глыбей спасцігаецца яго сэнс. "Малая радзіма" пачынае ўспрымацца і ў сваёй канкрэтызаванасці — як, да прыкладу, лясістая, балоцістая, шматскладовая па мове і па веры ("пэўны абшар вакол Белавежскай пушчы... на мяжы Гродзенскай і Брэсцкай абласцей Беларусі" і Беластоцкага ваяводства Польшчы"), і ў сваёй сакральна-метафізічнай сутнасці — як "міфічная запаветная зямля", да якой чалавек "прывязаны фактам свайго нараджэння і ўзгадавання" і якой закладзены "першасныя каардынаты" яго быцця, не падуладныя ні часу, ні варункам, заўсёдныя, і як, у рэшце рэшт, "радзіма-прарадзіма", "мянестварыўшая рэчаіснасць".

Аднак удалечыні не толькі нараджаюцца думкі самотна-настальгічныя ды філасофскія, а і, вядома ж, адбываецца параўнанне свайго і замежнага. І, на вялікі жаль, не заўсёды на карысць першага. "У Цэнтральнай Еўропе, як гэта бачна хоць бы на прыкладзе Польшчы, — чытаем у Ю. Залоскі, — яшчэ захавана якаясьці — адчувальная — доля сакралізацыі ўсяго жывога, прыроды і чалавека. Тут зусім інакшыя і прырода, і чалавек — прынамсі, прырода не так панішчана, як у Айчыне. Нават пабытовыя дробязі, кухня, напрыклад, сведчаць аб пакрыёмым клопаце пра чалавека. І абсалютна інакшая, чымсьці дома, моладзь, — больш памяркоўная, спакойная, нармальная... Гэта людства, якое ведае вартасць жыцця і таму шануе яго нават у дробязях. У такім людстве пачуваецца надзвычай лагодна і лёгка. Быццам спазнаеш забыты смак існавання". Не ведаю, як каму, а мне ўспомніліся радкі з кнігі М. Гарэцкага "На Імперыялістычнай вайне", у якіх гэткі ж боль за Айчыну. Вярнуўшыся з фронту дамоў, у родную хату, думае Лявон Задума: "Як гэта ўсё далёка.. ад той культурнасці, якую бачыў я ў сялянскіх хатах ува Усходняй Прусіі". Восем дзесяцігоддзяў прайшло, а боль і самота ад таго, адбываецца на радзіме, не змяніліся на нейкія іншыя пачуванні. Насампраўдзе, перафразуючы словы ўсё таго ж М. Гарэцкага, — у чым наша віна?

Тэма радзімы знітавана з яшчэ адной — горада і вёскі. У адданасці апошняй аўтар і прызнаецца шматкроць. Горад — сімвал цывілізацыі, а яна для Ю. Залоскі (ды і не толькі для яго аднаго) — ці не сінонім "утылізаванай культуры, здабыткі праўдзівай культуры ў якой ператвораны ў спадручны матэрыял для непісьменнага ўвогуле, некультурнага гарадскога чалавека". Горад, па сутнасці, своеасаблівы антысвет у параўнанні з вёскай — пачаткам беларускай культуры і яе на сённяшні дзень апірышчам, "аптымальнай мадэллю культуры супольнага жыцця", "арганізацыі сумоўя, стасунка людзей", а менавіта гэтае сумоўе, на думку Ю. Залоскі, і з'яўляецца найгалоўнейшай прыкметай культуры, яе ўзроўню, якасці і проста — наяўнасці.

*Юрась ЗАЛОСКА. Версіі. Шлях да храма "Idea sui": дзённік, дыялогі ЭСЭ. "Тэхналогія", 1995.*

Якая з гэтага выснова? "Сёння я повен разумення таго, што калі што і "ўратуе" вёску, то толькі не слёзнае вершаванне сваіх пачуццяў, а канкрэтная праца па засваенні і агучванні вясковай традыцыі".

"Культура — гэта вызначальная якасць свету, атрыманая ў спадчыну" - сцвярджаў французскі пісьменнік і філосаф А. Мальро. Што ў гэтым сэнсе літаратура? Разважанні менавіта аб ёй мяне як літаратуразнаўцу зацікавілі найперш. У чым стваральная функцыя літаратуры, акрамя таго, што яна сама — тварэнне, сукупнасць твораў, сукупны твар? Што імкнецца яна спасцігнуць, апроч матэрыяльна зафіксаванай рэчаіснасці? У якой ступені падуладна літаратура часу, абставінам, ментальнасці мастака? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні шукаюць Ю. Залоска і яго суразмоўцы — пісьменнікі і даследчыкі літаратуры. Тут, безумоўна, кожны чытач "Версій" знойдзе для сябе як аднадумцаў, так і апанентаў. У любым выпадку кніга мае што дадаць да літаратурнай, так бы мовіць, генеалогіі беларускіх пісьменнікаў, да іх эстэтычнага крэда.

Як вышэй ужо адзначалася, цяжка не тое што прааналізаваць, а нават проста пералічыць усе праблемы, што сталі прадметам роздумаў Ю. Залоскі і яго субяседнікаў. У кнізе — уяўленні, ідэалы, каштоўнасныя арыенціры сучасніка, яго спадзяванні і расчараванні, сведамасныя з'явы яго і папярэднікаў, што замацаваліся ў самых розных сферах — ад штодзённа-побытавай да літаратуры, жывапісу, навукі, палітыкі. У той жа час, аб чым бы ні ішла размова, яна мае сваім фокусам лёс Беларусі, яе Адраджэнне. Зрэшты, асабіста мне здаецца, што ёсць пільная неаб-ходнасць асэнсавання, удакладнення самога паняцця "беларускае адраджэнне" (якое для адных стала паняццем-фетышам, для другіх — чымсьці накшталт раздражняльнай чырвонай анучы ў вачах раз'юшанага быка) і ў гістарычным, і ў філасофска-эстэтычным, і ў палітычным ды іншых аспектах. У кожным разе гэтае паняцце непазбежна спадарожнічае асэнсаванню беларуш-чыны, суаднесенасці розных яе складовых — мінулага, сучаснасці і будучыні, дэмакратыі, нацыяналізму, сённяшняга быцця нашага (якое, кажучы словамі згаданага вышэй А. Мальро, пакуль не што іншае, як "быццё адноснае смерці"). І перспектыў — бліжэйшых і аддаленых.

Для Ю. Залоскі беларушчына — адно з "крычачых пытанняў"; яе вызначэнне носіць у "Версіях" характар рамантычна-паэтычны:

"БЕЛАРУШЧЫНА.

БЕЛАРУШЧЫНА — як прыгожае паданне, жаданы міф.

БЕЛАРУШЧЫНА — як ідэалістычны цэнтр прыцягнення душы, што вызначае і парадкуе свет рэчаў вакол нас: жытло, апратку, песні, сны...

БЕЛАРУШЧЫНА — як усебеларускі метафізічны Грааль, у які збіраюцца-сыходзяцца токі нацыянальнага духу і які дзеля таго варты такой жа светлай міфалагізацыі, як і той сапраўдны, міфічны Грааль..."

Асаблівае месца ў кнізе Ю. Залоскі займаюць дыялогі. Прадрабязна запыняцца на іх не буду свядома: кожны з гэтых дыялогаў, я пераканана, займее пільную ўвагу з боку чытачоў з самымі рознымі інтарэсамі — ад навукоўцаў да студэнтаў і проста неабыякавых да культурнага жыцця Айчыны. У сукупнасці ж сваёй гэтыя дыялогі — сапраўднае свята духоўнасці, якое многа дасць чытацкім розуму і сэрцу. Дазволю сабе назваць прозвішчы суразмоўцаў Ю. Залоскі, не ўзгадваючы пры гэтым іх прафесійных заняткаў ды пасад (і таму, што ў бальшыні сваёй яны ў гэтым не маюць патрэбы, і таму яшчэ, што іх трывалая прысутнасць у культурнай нашай прасторы, найчасцей не ўкладваецца ў пракрустава ложа нейкага адзінага занятку): В. Быкаў, Я. Шунейка, І. Бабкоў, У. Конан, М. Крукоўскі, А. Каўка, А. Мальдзіс, М. Раманюк, А. Трусаў, А. Сідарэвіч, І. Жук, П. Церашковіч, А. Кіштымаў, Э. Зайкоўскі, С. Дубавец, А. Федарэнка, Г. Сурмач.

Найцікавейшы прыём выводжу для сябе з кнігі: дыялог дыялогаў. Усе названыя вышэй пісьменнікі, гісторыкі, даследчыкі культуры ўступаюць у дыялог не толькі з Ю. Залоскам, але і — праз яго, з яго непасрэдным удзелам — і ў дыялог адно з адным, часцей пагаджаючыся, часам адно аднаго ўдакладняючы ці аспрэчваючы, аднак у кожным выпадку пакідаючы ў чытача ўражанне асобаснасці, індывідуальнасці, глыбокай заклапочанасці лёсам Беларусі і яе культуры. Адзін мой калега па універсітэце любіць гаварыць, што дарэмна чакаць ад спрэчкі ісціны, бо народзіцца яшчэ больш пытанняў. Наконт ісціны — не ведаю; схільна думаць, што — пры ўсёй разнастайнасці яе разумення рознымі людзьмі — ісціна нараджаецца ў адзінотным роздуме чалавека; а вось прага ісціны, прага яе пошуку шляхам спрэчкі, дыялога, пэўна, бывае. Ю. Залоска падкрэслівае, што "Версіі" пажадана чытаць менавіта як "запрашэнне да саўдзелу", сугаворкі, суразумення (пры гэтым апошняе зусім неабавязкова азначае згоду ва ўсім).

Агульнавядома: за недалёкім часам жанр дыялога ў нас не надта віталі, што цалкам зразумела. Невыпадкова дыялог у прынцыпе не прызнаецца дыктатарамі, у тым ліку і тымі, што не сціраюць чалавека ў лагерны пыл і пакідаюць яму фармальную свабоду. Тое ж можна сказаць і пра жанр эсэ, гэты, па словах вядомага вучонага і філосафа, "двухсэнсавы жанр", які — нельга не пагадзіцца з Ю. Залоскам — пад савецкім часам практыкаваўся даволі рэдка, у той час як на Захадзе стаў адным з самых папулярных. І, зноў жа, гэта зразумела. Узгадайма оруэлаўскі "1984": самым цяжкім злачынствам у Акіяніі лічылася "злачынства думкі, або, як казалі, — думзлачынства", і Паліцыя Думак пільна сачыла за тым, каб гэты смяротны грэх выкараняўся дашчэнту. Ад думкі ж, ад рэфлексіі недалёка і да ўчынку! Апошнім часам эсэ дастаткова часта з'яўляюцца і ў нашым друку.

Што датычыць эсэ Ю. Залоскі, то прадметам абдумвання ў іх сталі, вядома ж, і дужа канкрэтныя падзеі, у тым ліку палітычныя. Асабіста мне, аднак, цікавей за іншыя разважанні метафізічна-сугестыўнага кшталту, якія і "апратку" маюць больш афарыстычную, і ўяўленне пра асобу аўтара даюць больш глыбокае. Для мяне як чытача гэта важней. І хоць бясконца цікава сачыць за думкамі суразмоўцаў Ю. Залоскі, аднак — хто ж ён сам, у розных сваіх, хоць і судакранальных амплуа — журналіста, філосафа, літаратуразнаўцы і, у рэшце рэшт, аб'яднальнай фігуры "Версій"? Па публікацыях ён, відавочна, знаёмы многім; іншым жа раю з ім пазнаёміцца: рамантык, інтэлектуал, шчыры і даверлівы чалавек. Па сутнасці, эсэ Ю. Залоскі — спроба духоўна-душэўнай аўтабіяграфіі, якую можна ўспрымаць і як біяграфію пэўнага часу — ці, прынамсі, пэўных яго зрэзаў".

І напаследак яшчэ аб адным. Хоць аўтар і "імкнуўся пазбавіцца пільнай прафесійнай прывязкі да часу, да падзей, з-за якой увага журналіста засяроджваецца на дні сённяшнім", хоць і зрабіў відавочную — і паспяховую — "літаратурную спробу ўзняцца НАД падзеямі, пераадолець кантэкст часу", апошні, тым не менш, дастаткова часта дае аб сабе знаць. Аднак гэта ўжо віна не аўтара, а нашай рэальнасці. Адчуванне пэўнай "прывязкі" расповяду да часу месцамі надзвычай вострае; і ці можа быць іначай, калі суразмоўцы дзеляцца радасцю з нагоды прызнання нацыянальнай сімволікі, прыняцця Закона аб дзяржаўнай мове (няма патрэбы ўдакладняць, што мы маем на сёння), а сам Ю. Залоска са скрухай канстатуе, што "беларушчынай выгадна займацца і з кар'ерысцкага пункту гледжання — яе ўхваляе і адзначае сама дзяржава" (сёння гэтая канстатацыя выклікае адно горкую ўсмешку).

Усё ж добра, што гэтая кніга, гэтае, паўтаруся, свята духоўнасці ёсць. Яна — сведчанне нашай "наяўнасці" ў свеце і падстава для спадзеву, што, кажучы працытаванымі ў "Версіях" радкамі Алеся Разанава, і мы збяромся з сіламі, "каб калі-небудзь абвергнуць сваё існаванне, адолець дваістасць і стаць насамpraўдзе сабой". Не ўсё страчана, бо "яшчэ стаіць наш дом"...

**Ева ЛЯВОНАВА**

Віншуем!

# Васілю СУПРУНУ — 70



***Споўнілася 70 гадоў гісторыку, краязнаўцу, пісьменніку Васілю Супруну. Васіль Рыгоравіч з кагорты людзей, якія праз усё сваё свядомае жыццё пранеслі адданасць беларускай ідэі, нацыянальнаму Адраджэнню. У 1946 годзе ён стварыў у Слоніме падпольную арганізацыю "Чайка", якая праз год стала "Цэнтрам беларускага вызвольнага руху". Ды нядоўга дзейнічалі патрыёты. У тым жа 1947-ым яны былі арыштаваны, а ваенны трыбунал асудзіў В. Супруна на 25 гадоў пазбаўлення волі. У Слонім Васіль Рыгоравіч вярнуўся ў 1956 годзе, але спецслужбы нагляд за ім не спынілі. Давялося на некаторы час зноў развітацца з роднай зямлёй, а вярнуўшыся ў Слонім, працаваў на будоўлях, увесь вольны час аддаючы археалогіі і краязнаўству.***

***У сталінскім лагеры, у 1953 годзе В. Супрун перапісваўся з Л. Геніюш, дасылаў ёй свае вершы. Аднак уласных кніжак яму давялося чакаць доўга. І ўсё ж яны з'явіліся — паэтычныя "Крык" (1993) і "Рэха абуджаных дзён" (1994), і гісторыка-краязнаўчы зборнік "За смугою часу" (1994).***

***Віншуем Васіля Рыгоравіча з днём нараджэння! Зычым яму і надалей нязломнасці духу, аптымізму, а таксама новых твораў!***

# МЫ ВЯРТАЕМСЯ ЗНОЎ

## О, КРАЮ МОЙ!

**Усё жыццё я будзіў Цябе,**
**Краю мой родны,**
**да памяці клікаў,**
**да лепшае долі.**
**Ды Ты, зрабаваны,**
**знямелы, галодны,**
**не чуў маіх просьбаў**
**з-за цемры-нядолі,**
**не думаў аб волі.**

**І сёння, калі**
**Богам дана нагода,**
**прачнуцца не можаш —**
**зноў траціш свабоду.**

●

**Арла не прывучыш да клеткі нявольнай.**
**Яму бездань неба прыродаю дана**
**і горных вяршыняў пейзаж навакольны,**
**што горда падняўся над зонай туманаў.**

**Затое і ў клетцы жывуць папугаі.**
**Жыццё іх другое і доля другая.**

**Здаецца, і людзі такімі бываюць:**
**адным толькі воля і сонца патрэбны,**
**другія ў ярме да панук прывыкаюць,**
**жывучы чужою скарынкаю хлебнай.**

**Таму і другога нічога не маюць,**
**з скарынкай чужою**
**ў пацёмках блукаюць.**

●

**Мы звяртаемся зноў**
**да мінулых вякоў,**
**каб з крыніц тых**
**духоўна жывіцца**
**і ад бруду свайго**
**і ліхіх сваякоў**
**светлай памяццю продкаў**
**адмыцца.**

## ЖЫЦЦЁ

**Жыццё — не ў тым,**
**што сёння бачу, чую,**
**і нат не ў тым,**
**што нешта гавару.**
**А ў тым, якой цаной**
**за кожны дзень плачу я,**
**што падкажу сябрам**
**і што ствару.**

**Прайсці свой шлях**
**да ракавой вяршыні —**
**удзел усіх.**
**Ды ці ж заслуга ў тым?**
**Пражыць жыццё —**
**аддаць сваёй Айчыне**
**ўсё лепшае,**
**што лічыш сам святым.**

## ШЛЯХАМ ЖУРАЎЛІНЫМ

**Чуеш? Ноччу пад купалам зорным**
**з пераклічкай ляцяць жураўлі,**
**затужыўшы па краю азёрным,**
**наймілейшай у свеце зямлі.**

**Ні цяплынь, ні саванаў прасторы —**
**можа, ў колькі разоў прыгажэй, —**
**не змаглі замяніць ім за морам**
**Беларусь,што за ўсё даражэй.**

**Паскараючы радасць сустрэчы,**
**нават ноччу, не трацячы час,**
**паспяшаюць дамоў. Гэта ў нечым**
**павучае, мой дружа, і нас.**

**Каб і мы — у часіны расстання —**
**нават ноччу знаходзілі шлях**
**да Радзімы. І сілай кахання**
**даражылі, як гэты вось птах.**

## ТЫ СКАЖЫ

**Пілігрымам прыйшоў ты ў мой лёс,**
**нейкай дзіўнай пяшчотай абвеяў**
**і для сэрца надзею прынёс,**
**што жыццё незайздроснае грэе.**

**Хоць скажы: як жа цешыцца мне?**
**На што можна ў жыцці спадзявацца?**
**Ці хоць варта цудоўнай вясне**
**ў сваім шчасці трывожным прызнацца?**

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ВЕРША

Аб тым, што ў час легендарнай баявой аперацыі "Баграціён" у адну з наступаючых армій — Трэцюю 1-га Беларускага фронту — высаджваўся творчы "дэсант" на чале з Міхасём Лыньковым, я пісаў ужо ў "ЛіМе". Нагадаю толькі, што ў складзе гэтага пісьменніцкага "падраздзялення" (я быў тады ваенным карэспандэнтам армейскай газеты "Боевое знамя") знаходзіўся і Максім Танк, якога я ведаў яшчэ з Бранскага фронту.

Запомніліся яго словы, сказаныя адразу пасля таго, як кніга "Беларускім паходам", прысвечаная Трэцяй арміі, была падрыхтавана да друку.

— Калі будзеш, братка, пісаць аб гэтай нашай франтавой камандзіроўцы ў сваёй будучай кнізе, больш за ўсё скажы пра Міхася Ціханавіча: ты ж бачыш вёрстку "Похода"...Ён жа напісаў ажно шаснаццаць нарысаў! А мы з Аркадзем Куляшовым — усяго толькі па адным вершы, — як бы з жалем прадоўжыў паэт.

З-пад пяра Яўгена Іванавіча ў кнігу "Беларускім паходам" увайшоў сапраўды адзін верш пад назвай "Форт Ружана" — пра горад-крэпасць непадалёк ад савецка-польскай граніцы. Не магу ўстрымацца, каб не прывесці хоць колькі радкоў з яго:

**Ты часта ўстаеш прада мной, форт Ружана,**
**Дзе плешчуцца Нараві сінія хвалі,**
**Дзе ноччу і днём бой грымеў несціхана,**
**Дзе шмат мы сяброў пахавалі...**

Пасля вайны ўжо верш быў дапісаны. Адбылося гэта ў 1952 годзе:

**...Ведаю, што па-над кожным курганам,**
**Ад Волгі да хваляў Балтыйскага мора,**
**Дзе нашай Айчыны сыны пахаваны,**
**Гараць незгасальныя зоры.**

Такая вось гісторыя гэтага твора М. Танка. А з Яўгенам Іванавічам, здаецца мне, мы добра пасябравалі, нярэдка сустракаліся. Ён нават наведваўся да мяне ў Кішынёў, дзе я пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта жыў і працаваў ажно дваццаць пяць год. А калі ў 1977 годзе вярнуўся на радзіму, сяброўскія і дзелавыя сустрэчы, тэлефонныя размовы сталі амаль штодзённымі. Субяседнік Яўген Іванавіч быў нястомны і надзвычай цікавы, любіў дасціпнае слова, добразычлівы сяброўскі жарт.

**Рыгор ТАРАСЕВІЧ**

Як бязлітасная кара
За знявечаныя лёсы,

За нясцерпныя пакуты,
За прагоркі пот выгнання,
За крутога лёсу путы,
За разбітае каханне...

Паплыве над светам хмара,
Перакрэсліць небасхілы,
Ападзе рэнтгенаў жарам
На грудок яго магілы.

Ўзніме нат і нежывога,
Скажа крапам пілігрыму,
"Я — крыжовая дарога!
Руш, выгнаннік, на радзіму...

Ты павінен смерць убачыць
Там, дзе сам спаткаўся з жахам.
Не забыты сэрцам Бабчын
Лёг увесь магільным прахам.

Там ні голасу жывога,
Ноч павыслала цямрэчу.
Я, крыжовая дарога,
Прывяду Яе на стрэчу.

Там цяпер ні слёз, ні гора,
Там адно палын атрутны.
Вы спаткаецеся скора,
Пазабыўшы век пакутны..."

## БАВАРЫХА

Ведалі тое: за жаніха
Сабе залыгала прыблуду-туземца.
"Хлапца прывяла у вайну... ад немца!"
І стала на вёску —
Баварыха.

Дзе бавар? — не скажа зямля сырая,
Парыць косці ў якой старане.
А на падворку яна, старая,
Праклёнам горкім жыццё кляне.

Не раз, бывала, суседзяў жонак
Нападкамі прабірала да слёз.
А ў хаце рыжы, як ліс, баваронак
Вясёлым, гарэзлівым хлопцам рос.

Калоў у цішы марознай дровы,
Па леце — хвацка вяршыў стагі.
А ляжа суцемак вечаровы —
Сох па абранніцы ад тугі.

Яна ж з другімі гадзіны бавіць.
А ён падсядзе — ўзаб'е чубок.
Ды толькі й чуе: — Паганы бавар,
І не глядзі у мой дайжа бок!

І не знайсці ўжо рукам занятку,
Душу калоціць пагарды смех.
І ў адзіноце кляне ён матку
За гэты, знаны на вёску, грэх.

## МАКРЭНА

Макрэна з фартуха снедала —
Хапала штось на хаду.
Макрэна жыла і ведала:
Бягу — усё будзе ў ладу!

То з касою на поплаве,
То з сякераю на дрывотні.
А ноч ападала цёплая,
І сон не браў прываротны.

І несла пяршак з каморы.
Перабірала гады.
І плакала ўжо да ўморы:
"Які пайшоў малады!"

Гукала з пустой далечы,
Дзе крумканне крумкача.
І прыпадала да печы,
Як да яго пляча.

А ледзьве шарэла-днела
І дзень уставаў рабы,
Кідалася ў золак смела,
Сцвярджала сабе: рабі!

Вірыла да зносу праца,
Здаецца, з-пад ног ірвучы.
І ўмела адно баяцца
Не чутай нікім начы.

## АКСІНЧЫК

Казала сыну: знайшла ў капусце, —
Калі пытаўся, дзе татка мой?
А на душы
пакутна-вусцішна
Было ў самой.

Хадзіла вуліцай — маладзела,
Бы шчасце помлівае відно,
Калі украдліва зноў глядзела
Ў яго акно.

Для хваляванкі была прычына,
Ішла таропка ад тых акон.
Глядзела спудна на тварык сына:
— Ну чыста — ён!

Сябры пыталі ў яго пра бацьку.
— Знайшлі ў капусце!
Ў адказ: — Не хлусь!
Бязвокі толькі, байструк, не бачыць —
Прыстроіў Вусь!

І неяк вуліцай на здзіўленне
Людской прыцішанай гаманы
З букетам маю у дзень вясенні
Ішлі яны.

Бацькоўскі першы смактаў гасцінчык
І зыркаў радасна на людзей...
Па матцы звалі яго Аксінчык
Усё радзей.

## ЗОЯ

За што ні хопіцца: не тое!
Дранцвеюць пальцы неслухмяна.
У раз які садзіцца Зоя,
Бярэ пісьмо з Афганістана.

І слёз удушная гарчына
Ў вачах пякучкай наплывае.
Спакойны чуе голас сына,
На слове кожным — абрывае.

Канешне, хлусіць ёй для ўцехі.
А мо дзе ранены ці хворы?
І ўжо хацін суседскіх стрэхі
За шклом узносяцца, як горы.

Яе збялелая трывога
Паўзе па тых халодных скалах.
З малітвай слёзна просіць Бога,
Каб куля сына не спаткала.

Даносіць радыё бадзёра
Пра запуск спутніка навіну.
А тут, на вуліцу, учора
Прывезлі ў цынку дамавіну.

Душа да лёду схаладзела,
Калі стаяла ў душнай хаце,
Калі у вочы пaглядзела
Сваёй сяброўцы — хлопца маці.

Хапае ручку: — Воўка, Вова...
А вочы засціць болю сажа.
Сказаць якое сыну слова?
Камечыць ліст — не тое кажа!

Чым праўда маткі адзавецца,
Якой абрынецца бядотай?!
І сэрца, споланае, б'ецца,
І думы — поўняцца маркотай.

І там, дзе вухаюць снарады,
Прайшоўшы ценем свету далі,
Крычыць чынам крамлёўскім:
— Гады!
За што дзіця на смерць паслалі?!

●

Каваля старая хата.
Пад акном — рабіны гроны.
Тут у бессанях багата
Дум адгрукала стамлёных.

Адмахаўшы да Берліна,
Ён, не чуючы утомы,
Раздзімаў вуголлі слынна.
На акругу звон вядомы.

У жалезе зранку грузне
Молат, бухнуўшы, пудовы...
Забягалі часта ў кузню
Маладухі і удовы.

Вёскі ранішняе поле
Лемяхом яго паднята.
Адступілася нядоля,
Ускружыла голаў мята.

На плячы сярпок зублёны —
З кузні мчыцца маладзіца.
Позірк воч блішчыць зялёны:
Як сумела разлічыцца!

Патаналі ў пругкім звоне
Маладух гарачых словы.
Хлопцы ў Лідкі, дзеўкі ў Соні —
Кавалёвы, Кавалёвы...

Проза

Віктар СУПРУНЧУК



# ІДУ СЛУЖЫЦЬ...

АПАВЯДАННЕ

*І стварыў Госпадзь Бог чалавека з праху зямнога, і ўдзьмуў у твар яго дыханне жыцця, і стаў чалавек душою жывою.*

*Біблія, гл. 2, верш 7.*

... Вогненны шар, здалося, урэзаўся ў ягоную галаву, і галава трэснула на дзесяткі кавалкаў і кавалачкаў. Полымя яшчэ якую хвілю паліла цела, але насунулася чорная прорва, і ён растаў у гарачым паветры. Ператварыўся ў попел, які вецер развеяў над палямі і гарамі, што паблісквалі снежнымі вяршынямі дзесьці ля неба. Алесь адчуваў сябе ў кожнай пясчынцы, у кропельцы вады. Ён зліўся з Сусветам і ляцеў да Бога, каб стаць яго сынам ці госцем. Толькі Бог мог сабраць увесь попел, пясчынкі і ваду і зляпіць з іх чалавека. Калі ж гэта будзе, колькі часу лётаць у паветры? Дый што застанецца ад яго? Такіх, як ён, спаленых і ўзарваных, шмат лятае ў небе. А Ўсявышні — адзін. На ўсіх наўрад ці хопіць у яго моцы. Божа, як цяжка ляцець у небе, баючыся за кожную сваю попелінку і усё ж спадзеючыся, што літасць не абміне. Каб не пайшоў дождж і не змыў гэты чалавечы пыл з аблокаў і неба. Колькі ўнізе вады, і яна цячэ, цячэ і раптам панясе яго ў акіян. І Бог тады не дапаможа. Вось нешта ўжо блішчыць, змяншаецца цемра. Няйнакш ён растварыўся ў вадзе і кропля па кроплі знікае ў вадзяной бездані. Але што гэта? Вецер сціскае яго цела. Яны побач адно ля аднаго. І Алесь пачынае адчуваць рукі і ногі. Моцна баліць галава, але ж яна на месцы, пры ім. Ён нібы бачыць сябе збоку і не можа пазнаць сябе. Што гэта за чалавек, які ўяўляе сябе ім? Што ў ім яго, а што чужое? З чыіх кавалкаў і рэшткаў сабраў Бог тулава? Аднак ён помніць, што гэта ён. Толькі хто ён і дзе?

Зверху ўжо льецца святло. Магутныя сонечныя промні паляць чарнату, і чыстае паветра напаўняе ўсе жылы. Нібы вадаспад, бурліць кроў, поўная радасці. Гэта яго жыццё вяртаецца ў цела. І ён увачавідкі бачыць, як яно злучаецца з душой. Нешта шчоўкае, і ён расплюшчвае вочы, перад якімі ў некалькіх кроках белая сцяна. Зверху над галавой драты і гумовыя шлангі. Здаецца, усё-ткі жывы. Паварушыў рукамі, пасля нагамі. Скінуў з сябе коўдру. На ім белыя доўгія штаны і белая з чырвоным квадрацікам на левым баку грудзей кашуля. На квадраціку лічба 52.

У пакоі нікога не было. Шкляныя, напалову зафарбаваныя белым дзверы прыадчынены. Так, ён, канечне, Алесь. Толькі дзе ён? Ён толькі помніў, што ў яго стралялі, і той — вогненны шар. Больш нічога. Што там за дзвярыма? Калі ён паспрабуе выйсці? Будуць ісці яго ногі, як некалі хадзілі?.. А ён чалавек? Яго сабраў Бог па квалачку, з пяску і вады, з попелу. Мо ён і прыставіў да тулава звярыную галаву, а ззаду — хвост, бы ў сабакі. Страшна, але так хочацца зірнуць на сябе, на сваё аблічча. Хваста быццам няма і рагоў на галаве таксама.

Ціхенька, баючыся, што ногі не вытрымаюць цяжару цела, ён падышоў да шкляной шафы, на паліцах якой стаялі нейкія бутэлечкі. З паўзацемненага шкла на яго глядзеў твар маладога хлопца. Па дыяганалі з-пад валасоў да правага брыва лоб перасякаў шрам. Алесь правёў па ім рукою, але болю не адчуў. Валасы былі кароткія, тырчалі нібы іголкі. Нос трохі скрыўлены, доўгі. Ці быў ён у яго і раней такі? Ладна, які ўжо Бог даў. Дзякуй яму за гэта.

Што там за акном, закрытым амаль даверху шчыльнымі белымі фіранкамі. На падаконнік ён не палезе, бо грымнецца ўніз на гэты шэры бетон і тады ўжо Ўсявышні наўрад ці дапаможа. Ляцець яму з кроплямі вады і пылам у акіян альбо ў горы, якія, прыплюшчыўшы вочы, і зараз бачыць. Здаецца, да іх рукою падаць, зрабіць крок-другі і ён — на блішчастай ад цёплага бялюткага снегу вяршыні. Чаму ён цёплы, а не халодны, як гэты бетон?

Яго ногі павялі да дзвярэй, і Алесь, падуладны ім, пайшоў, трохі хістаючыся ад слабасці, але з кожным крокам усё больш упэўнена. Цяжар знікаў з цела, саступаючы незвычайнай лёгкасці. Яму толькі заставалася дакрануцца рукою да дзвярэй, як яны шырока расчыніліся. У пакой увайшлі чацвёра мужчын і адна жанчына. Усе ў белым, з прыкрытымі павязкамі тварамі. Высокі мужчына з сівымі валасамі задаволена паляпаў Алеся па плячы, прымусіў сесці на ложак. Доўга слухаў, аб нечым гаманіў з памочнікамі на незразумелай мове. Паказваў на грудзі, на спіну. Ляпаў гумовым малатком па левай назе, і ледзь чутны боль, як рэха, азваўся ў галаве. Аднак ён быў і прыемны, нагадваў аб нечым далёкім-далёкім. Вельмі захацелася спаць, і вось-вось магутныя хвалі падхопяць ягонае цела. Пагойдваючыся, паплыве ў прасторы. Ці вернецца назад і куды занясуць хвалі? Спакваля пачаў супраціўляцца, зноў заклікаючы Усявышняга аб дапамозе. І ён нібы вярнуўся ў пакой, убачыў схіленых над ім людзей у белым. У іхніх вачах не было да яго ні злосці, ні нянавісці. Толькі цікавасць, а ў жанчыны вейкі былі мокрыя. Алесь зразумеў: шкадавала яго. Ад гэтага ўдзячнасць ёй запоўніла грудзі, нібы паветрам, і стала радасна. Высокі мужчына нешта сказаў яму, пагладзіў па галаве. Вочы яго смяяліся. Ён, мусіць, быў вельмі задаволены. Ягоны смех быў чуцен нават праз павязку. Мо гэта Бог і з ім анёлы? Яны вярнулі яму чалавечае аблічча, сілы і здольнасць хадзіць на сваіх нагах. Не далі сцячы па кропельцы ў бязмежны акіян, растаць назаўжды ў аблоках. Ім, мусіць, трэба падзякаваць. Але як і чым? Што ў яго ёсць, акрамя рук і ног і няўцямнай галавы, якая нічога не помніць і не ведае?

З шафы, якую ён дагэтуль не заўважыў, жанчына дастала адзенне і паклала на ложак. Махнула рукою. Алесь здагадаўся: пераапранацца. Кашуля была светла-шэрай у пасачкі, трошкі вялікаватай для яго. Джынсы — якраз, і лёгкія жаўтаватыя туфлі нібы пашыты на заказ. Калі ён апрануўся, жанчына падала яму яшчэ акуратную, на рэмені, зручную сумку.

Яго памалу вялі доўгімі цёмнымі калідорамі, дзе не спаткаўся ніводзін чалавек. Толькі часам сівы мужчына, які ішоў спераду, размаўляў з некім па радыётэлефоне. Калі скончыцца гэтая дарога для яго? Яму ўжо вельмі хацелася жыць і не было аніякага жадання ператварыцца ў пыл. Заставалася моўчкі рухацца далей у гэтай цемры, адчуваючы з усіх бакоў ціхае і спакойнае дыханне невядомых людзей і залежаць ад іхняй боскай ці сатанінскай волі.

Ён зразумеў, што яны спыніліся, наткнуўшыся на спіну чалавека, які ішоў перад ім. Пастаялі хвіліну ці дзве, не перамаўляючыся, у напятай цішыні, ад якой зазвінела ў галаве. потым аднекуль справа бліснуў шырокі і слабы прамень святла, загудзела машына. Што яшчэ магло гэтак раўсці, як не рухавік аўтамабіля ці танка?

*(Працяг на стар. 14-15)*

## ЛЯЛЬКАМ — 25



Дзіцячы ўзорны ансамбль "Лялькі" Баранавіцкага гарадскога Дома культуры добра ведаюць у нашай рэспубліцы, ён лаўрэат многіх міжнародных фестываляў. За 25 гадоў у ім змянілася не адно пакаленне танцораў, а першыя ўдзельнікі ансамбля ўжо прыводзяць сюды сваіх унукаў.

*На здымку: вясёлыя дзяўчаткі з "Лялек".*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## УРАЧЫСТА І ВЕСЕЛА



Менавіта так адзначылі калегі і прыхільнікі таленту заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, рэжысёра і акцёра Сяргея Еўдашэнкі 45-годдзе творчай дзейнасці і 40-гадовы юбілей яго працы ў Брэсцкім тэатры драмы і музыкі.

Прысутныя разам прыгадалі творчы шлях Сяргея Іванавіча: трыццаць спектакляў, шэсць дзесяткаў роляў. Варта адзначыць, што ў пастаноўцы Сяргея Еўдашэнкі мелі поспех творы беларускіх драматургаў Янкі Купалы, Андрэя Макаёнка, Аляксея Дударава, інсцэніроўкі празаічных і паэтычных твораў беларускіх пісьменнікаў Івана Чыгрынава, Івана Шамякіна, Аркадзя Куляшова. Асабліва напружаныя былі апошнія тры гады жыцця, калі Еўдашэнка займаў пасаду галоўнага рэжысёра тэатра. Яны пазначаны спектаклямі "Пад адным дахам" Людмілы Разумоўскай, "Купала" Аляксея Дударава, "Восем жанчын, якія любяць" Рабера Тама.

Прыхільнікі акцёрскага і рэжысёрскага таленту Сяргея Іванавіча могуць і цяпер наведваць спектаклі "Прарочыя сны", "Купала", "Калі конь траціць прытомнасць". Заняты акцёр і ў новым спектаклі, праца над якім толькі распачатая — спектакль паводле А. Чэхава "Іванаў" новага галоўнага рэжысёра тэатра Якава Натапава.

З. Д.

*На здымку: Сяргей Еўдашэнка прымае віншаванне ад Соф'і Пісьман.*

*Фота Юрыя КУСКОВА*

## ДЛЯ МІЛЫХ ДАМ...

Адмыслова адзначыў свята 8 Сакавіка ансамбль салістаў "Класік-Авангард". Сваю новую канцэртную праграму, прэзентаваную ў Зале камернай музыкі сталічнай філармоніі, што на Залатой Горцы, ён прысвяціў жанчынам. Сур'ёзныя музыканты-акадэмісты на чале з мастацкім кіраўніком "Класік-Авангарда" Уладзімірам Байдавым падаравалі публіцы сапраўды святочны, іскрысты па настроі вечар. Бліскучы, дасціпны, гарэзлівы, нібыта пікантны напой у звонкім сасудзе, — такі вобразны свет стварылі вакол сябе зналыя музыкі-віртуозы. Асабліва ўрачысты штрых у гукавую атмасферу ўнесла гранне медных духавых, якія далучыліся да традыцыйнага складу "Класік-Авангарда". Што ж было ў рэпертуары? "Вясёлы" М. Глінка: экспромт у форме галопа на тэму з оперы Г. Даніцэці "Любоўны напой", "Полька" ды "Кавалерыйская рысь"; "Танга", "Вальс" ды "Рэгтайм" з " Гісторыі салдата" І. Стравінскага; экзатычныя рытмы "Джонды" К. Сурынаха, настальгічныя бітлаўскія матывы "Ліверпульскай сюіты" П. Макартні; прасякнутыя танцавальнасцю творы А. Копланда і В. Бібергана... Расчуленыя дамы ды іхнія спадарожнікі вымусілі музыкантаў іграць на "біс".

С. Б.



Тэатр

***Адно толькі тое, што з лепшых спектакляў можна з пэўнай дакладнасцю ўявіць, прасачыць, зразумець не толькі розумам, але і адчуць сэрцам гісторыю беларусаў, і гісторыю многіх іншых народаў свету на працягу многіх стагоддзяў, — дае права зрабіць адну важную выснову: купалаўскі тэатр за параўнальна невялікі кавалак часу здолеў не толькі скласціся ў высокапрафесійны творчы калектыў, але і стаць выдатнай мастацкай з'явай, маштабы якой выходзяць далёка за межы адной нацыянальнай культуры.***

ўпэўнена адказаў — да Бога ў душы...

Сёння, калі навокал запанавала нейкая мітуслівая мода на рэлігію (красамоўны прыклад такой мітуслівасці — апошняя прэм'ера ў Рускім акадэмічным тэатры імя М. Горкага "Уратуй нас, Божа"), не хочацца, гаворачы па-руску: "всуе вспоминать Святое Имя".

Сучасны тэатр атрымаў выдатную магчымасць вярнуцца да сваёй сутнасці, да сваёй першаснай прыроды — у аснове якой г у л ь н я. Гульня своеасаблівая, менавіта тая, што дае выдатную магчымасць падрыхтаванаму гледачу эмацыянальна і інтэлектуальна зазірнуць далей і глыбей за свой звыклы, будзённы "небасхіл". Зазірнуць і ўбачыць, здзівіцца прыгажосці, адчуць нейкі новы сэнс свайго жыцця — жыцця адзінага і непаўторнага. Адным словам, тэатр — школа жыцця. У гэтай формуле — той трывалы падмурак, мастацтве. Менавіта рэжысура нарадзіла складаную і супярэчлівую з'яву, якую адзначаюць аналітыкі сусветнага тэатра, — а д ц я с н е н н е д р а м а т у р г і і на другі план у сцэнічнай творчасці.

Яшчэ адна з'ява — нараджэнне мноства канцэпцый тэатра як грамадскага інстытута, мноства мадэлей узаемаадносін акцёра і гледача. Тут можна ўбачыць надзвычай шырокі дыяпазон: ад тэатра для мас (напрамак Робэра Асейна) і да тэатра для вузейшага кола (пошукі Ежы Гратоўскага). Адны рэжысёры бачылі задачу тэатра ў аб'яднанні гледачоў, народа, нацыі (Джорджа Стрэлер), другія спавядалі філасофію тэатра: які раз'ядноўвае (Бэртальд Брэхт), шмат было і ёсць сёння самых разнастайных з'яў, тэндэнцый, напрамкаў — дакументалізм, абсурдызм, неакансерватызм, постмадэрнізм і пострэалізм, плюралізм і іншыя вядомыя "ізмы".

Рычард СМОЛЬСКІ

# СПАДЗЯВАННЕ НА... ГОНКУ ЎЗБРАЕННЯЎ

## КУПАЛАЎЦЫ Ў ПРАСТОРЫ СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ

У правамернасці такога вываду пераконваюць тэндэнцыі апошніх гадоў, калі з'явілася магчымасць на ўласныя вочы ўбачыць, напрыклад, еўрапейскі тэатр: і ў нас дома, і за мяжой. Больш таго, на шматлікіх міжнародных тэатральных фэстах у розных кутках Еўропы беларускія тэатры неаднойчы здзіўлялі высокай і адметнай сцэнічнай культурай, вынаходлівай рэжысурай, вялікім творчым патэнцыялам акцёрскага мастацтва, сцэнаграфіі.

І справа тут не толькі ў тым, што на купалаўскай сцэне побач з творамі волатаў беларускай драматургіі (я не буду іх пералічваць, вы іх усіх добра ведаеце) ставіліся і творы Шэкспіра, Мальера, Шылера, Астроўскага, Чэхава, Брэхта і многіх іншых класікаў сусветнай драматургіі, што ўжо само па сабе з'яўляецца, так бы мовіць, прыкметай высокага прафесіяналізму трупы. Справа тут яшчэ і ў іншым. Яна ў тым, што купалаўская трупа, народжаная ў пакутах і прасветах першага беларускага Адраджэння, нясе ў сабе тое, што можна назваць беларускай душой — душой спагадлівай, здольнай вострa, а іншы раз нават больш, чым уласны боль, успрымаць пакуты і надзеі іншых народаў.

Добра гэта ці кепска — размова іншая, але тое, што беларусу баліць за ўвесь Сусвет, за сваіх суседзяў, — гэта відавочна. А купалаўцы ў сваіх лепшых, вышэйшых творчых здабытках, што запісаны залатымі літарамі ў летапіс нацыянальнай мастацкай культуры, — гэта выдатна адлюстравалі... Як мужна і бескампрамісна адлюстравалі і тыя бакі беларускай душы, пра якія нам іншы раз і не хацелася б ведаць, бо балюча і сорамна ўсведамляць і нейкую амаль рабскую пакорнасць лёсу, і нязбдольнасць у рашаючы момант выбару знайсці лепшы шлях, лепшае рашэнне.

Вядома, можна сябе суцешыць, што такія бакі нашай нацыянальнай ментальнасці не з'яўляюцца вызначальнымі, рашаючымі, што, маўляў, значна больш іншага — годнага, сапраўднага, людскага... Але чаму, чаму на гэты невялікі кавалак зямлі ў цэнтры Еўропы, што завецца Беларуссю, абрушваецца столькі бяды, гора, пакут...

Гэта не мае пытанні, гэтыя балючыя і вострыя пытанні для сумленнага чалавека настойліва ставіла і ставіць купалаўская сцэна... Іншая справа, што глядач не заўсёды быў гатовы да такіх пакутлівых пытанняў і складанага дыялогу. Але я не схільны тут вінаваціць гледача, яго быццам бы эстэтычную і псіхалагічную непадрыхтаванасць да такой сатворчасці з тэатрам. Зноў, яшчэ раз хачу падкрэсліць: тэатр, як від мастацтва, жыве ў сваім часе, жыве ў канкрэтнай гістарычнай рэчаіснасці і павінен знаходзіць паразуменне са сваім гледачом і на аснове гэтага паразумення і сатворчасці весці яго да... Да чаго ж яго і куды весці?! Пытанне складанае.

Яшчэ б гадоў дзесяць назад я б рашуча і



дзякуючы якому сцэнічнаму мастацтву наканаваны лёс вечнага і вернага спадарожніка ў нашым часовым гасцяванні на гэтай Зямлі.

XX стагоддзе, безумоўна, зойме асобнае месца ў гісторыі сусветнага, у тым ліку і айчыннага тэатра. Напрыклад, станаўленнем і развіццём р э ж ы с ё р с к а й творчасці, якая ў рашаючай ступені стала вызначаць галоўныя накірункі пошукаў і эксперыментаў у сцэнічным

Усё гэта красамоўна сведчыць, што сцэнічнае мастацтва жыве і развіваецца ў рытме с в а й г о ч а с у, у поўнай згодзе са славутай шэкспіраўскай формулай: тэатр — люстэрка свету...

Але не толькі. Здараецца, падзеі ў тэатральным жыцці як бы прадказваюць пэўныя гістарычныя зрухі, з'явы, тэндэнцыі ў жыцці рэальным. Далёка па прыклад такога "прароцтва" хадзіць не трэба: прыгадайце нядаўнюю гісторыю з МХАТам, яго падзелам на два, так бы мовіць, суверэнныя тэатры імя Чэхава і імя Горкага. Чым не прадказанне лёсу цяпер ужо былога Савецкага Саюза...

Што да купалаўскага тэатра, яго сённяшняга стану, то, — калі ўжо праводзіць такія паралелі і параўнанні, — нягледзячы на ўсялякія ўнутраныя канфлікты і непаразуменні паміж асобнымі майстрамі (а гэта, як мы ведаем,

*Час імкне ад юбілейных урачыстасцей Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Асэнсаванне яго мастацкай існасці, сутнасці, дзякаваць Богу, не ў юбілеі адбываецца. Некалькі матэрыялаў з нагоды існасці ды сутнасці трапілі ў рэдакцыю ўжо пасля афіцыйных дат ушанавання купалаўцаў. Першым з гэтае нізкі мы прапануем чытачам "ЛіМа" матэрыял доктара мастацтвазнаўства Рычарда Смольскага; гэта, уласна, ягоны даклад на канферэнцыі "Купалаўскі тэатр у прасторы сусветнай культуры" ў скарочаным выглядзе. Калі б ён яшчэ пабачыў шырокі чытацкі свет — дзеля таго самага славутага асэнсавання існасці ды сутнасці...*

даволі распаўсюджаная з'ява ў тэатральным жыцці), беларусы, як мне здаецца, могуць жыць і працаваць спакойна. Нашай маладой дзяржаве пакуль не пагражае перспектыва падзяліцца, напрыклад, на Мінскую і Віцебскую Рэспубліку, або суверэнныя княствы, хаця ў апошнія гады Віцебск усё часцей заяўляе аб сваіх амбіцыях і прэтэнзіях на ролю культурнай сталіцы Беларусі. І нічога кепскага ў гэтым, на мой погляд, няма, няхай сабе мінскія гарадскія ўлады думаюць пра свой "...Базар" або "...Пленэр". Я са свайго боку хачу толькі засведчыць: Беларускі акадэмічны тэатр імя Я. Коласа, што працуе ў Віцебску, да гэтых прэтэнзій ніякага дачынення не мае, яго калектыву спачатку трэба яшчэ разлічыцца за свой высокі акадэмічны... "аванс", дакладней, статус, атрыманы амаль два дзесяцігоддзі назад. Калі ж коласаўцы будуць "разлічвацца" спектаклямі такога ўзроўню, як "Кароль Лір" (пастаноўка В. Маслюка), які мы ўбачылі ў "Фестывалі сяброў", здаецца, яны ніколі не вернуць той аванс...

Купалаўцам сур'ёзную творчую канкурэнцыю могуць скласці (і ўжо час ад часу складаюць!) іншыя тэатральныя калектывы, што нарадзіліся і дзейнічаюць у беларускай сталіцы. І такая акалічнасць не можа не радаваць, бо, як вядома, толькі атмасфера творчай канкурэнцыі стварае найбольш спрыяльныя ўмовы для развіцця тэатра, нараджэння новых мастацкіх ідэй, арыгінальных канцэпцый і праграм.

Тое, што ў сённяшніх купалаўцаў ёсць сур'ёзныя канкурэнты на ніве сцэнічнай творчасці — пэўная заслуга саміх купалаўцаў, якія ўласным прыкладам, уласным творчым жыццём ствараюць даволі спрыяльную духоўную атмасферу, нейкую дзіўную ауру, што плённа ўздзейнічае на іншыя калектывы, асобных мастакоў. Тут можна было б прыгадаць шмат красамоўных прыкладаў з жыцця буйнейшых беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў і іншых майстроў культуры, якія прызнаваліся ў тым, што менавіта купалаўскі тэатр на розных этапах сваёй гісторыі магутна паўплываў на іх свядомасць, пачуцці, творчыя напрамкі, пошукі і здзяйсненні.

Такім чынам, купалаўскі тэатр удзейнічаў не толькі на сваіх непасрэдных гледачоў, якія штовечар прыходзілі на спектаклі, але і на ўсё мастацкае і духоўнае жыццё. Гэта — бесспрэчная заслуга купалаўцаў перад нацыянальнай культурай і ўсім грамадствам. Яна стала вынікам напружанай і самаахвярнай працы, а лепш сказаць, служэння некалькіх пакаленняў майстроў купалаўскай сцэны ідэалам высокага мастацтва, ідэалам дабра і справядлівасці.

Тут, аднак, мне могуць і запярэчыць, маўляў, наконт ідэалаў дабра і справядлівасці, якім быццам бы верна служыў купалаўскі тэатр, трэба паасцярожней і дакладней, асабліва, калі размова ідзе пра вядомыя падзеі, напрыклад, ГУЛАГаўскую атмасферу 30—40-х гадоў, што панавала ў тагачасным СССР.

Яно, як вядома, так. Я ўжо падкрэсліваў, што тэатр, як ні адзін іншы від мастацтва моцна залежыць ад свайго часу, ад пануючай улады. Тут нават просіцца формула: які час — такі і тэатр. Хаця могуць быць і выключэнні. Сусветная тэатральная культура ведае такія прыклады. Шэкспір, Мальер, Шылер, Астроўскі і іншыя выдатныя творцы залежалі ад свайго часу, каралёў і цароў, але энергія іх магутнага таленту усё ж такі ўзняла творцаў і над часам, і над тагачаснымі ўладамі.

Купалаўцы, вядома, таксама дзеці свайго часу, і маю на ўвазе пакаленні купалаўцаў — і мінулыя, і сённяшнія, — але дзеці асаблівыя. Ім заўсёды хапала розуму, інтуіцыі, а галоўнае — таленту і мужнасці, каб у прапанаваных абставінах свайго часу, абставінах нярэдка складаных, драматычных і нават трагічных, заставацца годнымі, заставацца сапраўднымі творцамі.

Напрыклад, сёння можна знайсці шмат хібаў у некалі славутым спектаклі Е. Міровіча "Кастусь Каліноўскі", як гэта робіць мой шаноўны калега Б. Бур'ян на старонках часопіса "Мастацтва", маўляў, паўстанцы 1863 года размаўлялі мовай камсамольцаў 20-х гадоў. Гэта — так. Моўная характарыстыка герояў гістарычнай драмы Міровіча — не лепшы бок гэтага адметнага літаратурнага твора. Але мне думаецца, што размаўляючы зразумелай для тагачаснага гледача мовай камсамольцаў 20-х гадоў, спектакль "Кастусь Каліноўскі" з вялікім У. Крыловічам у галоўнай ролі абуджаў гістарычную памяць і нацыянальную самасвядомасць, абуджаў глыбокія патрыятычныя пачуцці, — тыя найпершыя імператывы, што рухалі на Беларусі працэсы нацыянальна-культурнага адраджэння і тае палітыкі, што называлася беларусізацыяй. Менавіта ў гэтым — галоўнае значэнне славутага спектакля, народжанага магутным подыхам свайго часу. Е. Міровіч інтуітыўна адчуваў і рабіў тое, што потым дакладна сфармуляваў Г. Таўстаногаў: памятаеце, ён сказаў, што канцэпцыі спектакляў не трэба штучна выдумляць, яны знаходзяцца ў глядзельнай зале, рэжысёру толькі трэба яе адчуць і ўвасобіць на сцэне. Калі гэта ўдаецца, — спектакль выклікае цікавасць гледачоў, абуджае і думкі, і пачуцці, і асацыяцыі, і тое, што называецца эстэтычным задавальненнем, адным словам, робіцца падзеяй тэатральнага жыцця.

Лёс купалаўскага тэатра, яго роля і значэнне ў беларускім мастацтве, як і месца ў прасторы сусветнай культуры XX стагоддзя, абумоўлена многімі з'явамі і тэндэнцыямі як нацыянальнай гісторыі беларусаў, так і ўсёй сусветнай культуры. Хаця, вядома, у першую чаргу на станаўленне і развіццё купалаўскага тэатра самы магутны ўплыў рабіла руская сцэнічная культура. Я тут ужо згадаў імя Е. Міровіча, які да пераезду на Беларусь у 1919 г. быў ужо вядомым рускім драматургам, рэжысёрам і акцёрам. Менавіта ён на працягу першага дзесяцігоддзя купалаўскага тэатра прышчапіў, так бы мовіць, на маленькае дрэўца першага беларускага прафесійнага тэатра галінку тэатра псіхалагічнага рэалізму, у цэнтры якога знаходзіцца акцёр, яго душа... І як засведчыла потым уся шматгадовая гісторыя купалаўцаў — гэта была надзіва ўдалая, я б сказаў, максімальна натуральная "прышчэпка", якая прынесла багаты плён не толькі купалаўцам, але і ўсёй тэатральнай культуры Беларусі.

Так, прыход Міровіча ў БДТ-І можна назваць падарункам лёсу. Але я тут хацеў бы падкрэсліць адзін прынцыпова важны момант: усе выдатныя папярэднікі Міровіча — ад "бацькі" беларускага тэатра Ігната Буйніцкага і да Фларыяна Ждановіча, Францішка Аляхновіча і іншых самаахвярных руплівцаў айчыннага сцэнічнага мастацтва, усе яны таксама выгадаваліся на трывалым грунце і адметных традыцыях славянскіх культур, перш за ўсё — рускай і польскай, якія сілкавалі беларускі тэатр, развівалі яго нацыянальныя асаблівасці.

Варта прыгадаць яшчэ адну важную акалічнасць: у даваенны перыяд побач з нацыянальнымі трупамі паспяхова працавалі і ўзбагачалі агульную палітру сцэнічнага мастацтва Беларусі шматлікія рускамоўныя тэатральныя калектывы, а таксама Польскі і Яўрэйскі дзяржаўныя тэатры, якія мелі высокі рэспубліканскі статус. Ці трэба даказваць, што такое рэальнае ўзаемадзеянне розных нацыянальных культур спрыяла фенаменальна паскоранаму прафесійнаму развіццю купалаўскай трупы, назапашванню магутнага мастацкага патэнцыялу?

З гэтага, дарэчы, можна зрабіць адзін актуальны вывад: сучасная беларуская тэатральная культура адчувальна ўзбагаціцца, калі побач з існуючымі беларускімі і рускімі трупамі ў нас з'явяцца і тэатры польскія, украінскія, яўрэйскія, магчыма, і іншыя.

Тут, калі я ўжо закрануў праблемы с у ч а с н а г а тэатральнага мастацтва, хацеў бы звярнуць увагу толькі на некалькі найбольш вострых пытанняў, што паўсталі сёння і перад купалаўскай трупай, і ўсімі іншымі дзеячамі тэарыльнага мастацтва.



Першае, і самае галоўнае, што літаральна грукае ў дзверы, вокны, сцэны ўсіх тэатраў Беларусі, гэта — подых "новага надвор'я". Ва ўсіх сэнсах. Я ўжо падкрэсліваў залежнасць тэатра ад свайго часу, і ад тых, каго называюць "бацькамі нацыі". Добра, калі "бацька" — кемлівы, разумны і дальнабачны — так у свой час пашчасціла французам, калі Напалеон у кастрычніку 1812 г. у Маскве, ахопленай пажарамі, уласнай рукой адрэдагаваў і падпісаў Дэкрэт аб нацыянальным тэатры Камедзі Франсэз, які дзейнічае і да сённяшняга часу.

З вялікім скрыпам, цяжка, але няўмольна, усталёўваюцца новыя для нашай савецкай свядомасці (будзем, як гаворыцца, глядзець праўдзе ў вочы і рэчы называць сваімі імёнамі) умовы — і матэрыяльныя, і псіхалагічныя, абумоўленыя першымі павевамі рынкавых дачыненняў у сферы мастацкай культуры. Прыходзіць усведамленне (адны гэта ўжо зразумелі, напрыклад, у Альтэрнатыўным тэатры, другія яшчэ марудзяць) культурнага прадукта, мастацкага твора менавіта таварам. А тавар мае свой кошт, яго купляюць або не купляюць... Такім чынам, адносіны паміж мастаком і публікай набываюць новы характар, і гэты характар не робіць і не зробіць лёгкім для тэатральнага майстра жыццё.

Думаю, прыйдзе неўзабаве той час, калі В. Раеўскі, Б. Луцэнка і іншыя лідэры сучаснай беларускай рэжысуры будуць расказваць сваім унукам аб 70-х і 80-х гадах як гадах ці не самых... спрыяльных для тэатральнай творчасці, хоць ім даводзілася паспытаць жорсткага ідэалагічнага прэсінгу, ды і ад крытыкі чулі не толькі кампліменты. Але што тая крытыка ў параўнанні з няўмольнымі законамі рынку? Нават ідэалагічны ціск савецкіх часоў выглядае сёння лёгкім козытам.

Што ж у такіх варунках рабіць майстрам тэатральнай творчасці?

Зноў, як і заўсёды, спадзявацца на дзяржаву?..

Вядома, спадзявацца можна і трэба, але...

Але адначасова не варта, як тыя страусы, хаваць галаву ў пясок. Трэба ясна і добра бачыць, што робіцца навокал... Гэта — першае. А па-другое, развіццё сусветнай культуры напрыканцы XX стагоддзя сведчыць: ідзе няўмольны і паскораны працэс камерцыялізацыі мастацкага жыцця.

Увогуле, гэта, відаць, непазбежны працэс, абумоўлены законамі рынкавай эканомікі. І не ўсё так страшна, як здаецца на першы погляд.

Куды больш трывожыць іншая тэндэнцыя, якая назіраецца апошнім часам у многіх еўрапейскіх краінах. Тэндэнцыя гэта ў тым, што дзяржава, вобразна кажучы, вызваляе сама сябе ад многіх абавязкаў у адносінах да культуры. Напрыклад, гэта асабліва выразна праяўляецца зараз у Германіі. Нашы турыстычныя ўражанні звычайна грунтуюцца на знешнім бляску, а што тычыць сутнасці праблемы, то сёння многія вядучыя нямецкія культуролагі б'юць трывогу: дзяржава літаральна "ўцякае ад культуры". Ахвяры гэтых "уцёкаў" ужо ёсць. Напрыклад, некалькі гадоў назад зачыніў дзверы славуты Шылераўскі тэатр.

Спадзяванні на асобных мецэнатаў — таксама для нас у бліжэйшай перспектыве справа больш чым ілюзорная. Той жа Р. Таліпаў, які мае ўжо досыць вялікі вопыт работы ў еўрапейскай, так бы мовіць, рынкавай тэатральнай культуры, адно са сваіх інтэрв'ю штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" невыпадкова назваў "Хачу быць залежным".

Адным словам, праблема вельмі і вельмі складаная. І вельмі далікатная, супярэчлівая. Бо тэатр, як від мастацтва, асуджаны быць утрыманцам. Такое параўнанне гучыць для нашага вуха вельмі крыўдна, балюча. Мы выхаваны і прывыклі да іншых параўнанняў: тэатр — Храм, тэатр — Кафедра... Гэта ў нашай ментальнасці, у нашай усходнеславянскай культуры і традыцыях. А ў заходнееўрапейскай, а тым больш амерыканскай культурах, там іншыя падыходы і прынцыпы, без нашых славянскіх рэфлексій: тэатр — гэта бізнес, хоць і не вельмі прыбытковы, але бізнес.

У свой час К. Станіслаўскі абвясціў, што тэатр выратуюць аматары. Вядома, каб усе аматары былі як сам Канстанцін Сяргеевіч, пытанне ад паратунку не стаяла б так востра. Зразумела, што тэатральную справу выратуюць перш за ўсё сапраўдныя прафесіяналы, якіх у драматычным мастацтве заўсёды не хапала, асабліва сярод вялікай арміі драматычных акцёраў. А сёння менавіта а к ц ё р с к і н е п р а ф е с і я н а л і з м (а ён, заўважу ў дужках, пачынаецца з неахайных адносін да самога сябе, да сваёй фізічнай падрыхтоўкі, фігуры, голасу, пластычнай узброенасці і г.д.) больш за ўсё пагражае беларускаму мастацтву, яго будучыні.

Але гэты непрафесіяналізм не з'явіўся сам па сабе, ён — вынік многіх з'яў і тэндэнцый, уласцівых сучаснаму драматычнаму мастацтву. Напрыклад, не першы год тэатральная грамадскасць гаворыць пра к р ы з і с б е л а р у с к а й р э ж ы с у р ы. Звернемся да фактаў; у 90-я гады (а ўжо прайшла палова гэтага дзесяцігоддзя!) Валерый Раеўскі, Барыс Луцэнка, Валерый Маслюк, Валерый Мазынскі, — я называю толькі мастацкіх кіраўнікоў вядучых тэатраў, — не стварылі ніводнага яркага спектакля. Вядома, у гэтай "паўзе" былі і пэўныя аб'ектыўныя прычыны, але, прабачце, што да іх тэатральнаму гледачу?!.. Не прадаваць жа ім замест білетаў на сённяшнія прэм'еры... ксеракопіі газетных рэцэнзій на "Трыбунал" Макаёнка і Раеўскага, "Макбет" Шэкспіра і Луцэнкі, "Знак бяды" Быкава і Маслюка, "Вечар" Дударава і Мазынскага... Сумна, але факт, сённяшняя "элітная" рэжысура не прапаноўвае новых тэатральных ідэй. А яны патрэбны сцэнічнаму мастацтву як свежае паветра!..

Адыходзіць час, калі можна было дэфіцыт м а с т а ц к а с ц і ў спектаклі замяніць ідэалагічнай "фігай" і тым самым прыцягнуць увагу гледачоў і грамадскасці. Сёння такімі прыёмамі гледача "купіць" складана, у газетных кіёсках хоць і не багата, але ёсць апазіцыйныя выданні, якія задавальняюць цікавасць да палітычнай публіцыстыкі.

Непакоіць і адсутнасць перспектыўнай рэжысёрскай моладзі, бо тыя ж М. Пінігін, В. Катавіцкі, Р. Таліпаў, В. Грыгалюнас, М. Трухан і іншыя вядомыя пастаноўшчыкі даўно з'яўляюцца сталымі майстрамі. Ім, калі можна так сказаць, ніхто з сённяшніх маладых рэжысёраў у "патыліцу не дыхае". Чым гэта пагражае, думаю, тлумачэнняў не патрабуе. Але трэба ўсведамляць іншае: таленавіты рэжысёр, — з'ява вельмі рэдкая, унікальная, і калі такі творца прыходзіць у мастацтва, яму неабходна ствараць адпаведныя ўмовы. Мне здаецца, што і М. Пінігін, і Р. Таліпаў і іншыя рэжысёры заслугоўваюць значна большай увагі, чым маюць на самай справе, бо талент не ёсць прыватная справа...

Першая палова 90-х гадоў прайшла і пад знакам к р ы з і с у д р а м а т у р г і і. Трэба прызнаць, што нараканні рэжысёраў на адсутнасць новых таленавітых п'ес у значнай ступені справядлівая. Драматургі ў сваю чаргу скардзяцца на адсутнасць зацікаўленасці да іх творчасці з боку рэжысёраў, што таксама не так ужо далёка ад праўды. Хаця, на мой погляд, калі з'яўляецца ў нацыянальнай літаратуры адметная п'еса, яна абавязкова знаходзіць шлях на сцэну, у тым ліку і купалаўскую. Пра гэта красамоўна сведчыць гісторыя беларускага тэатра; усё лепшае, што было напісана нашымі драматургамі, знаходзіла сваё ўвасабленне на купалаўскай сцэне. Тут можна прыгадаць лепшыя п'есы К. Крапівы, А. Маўзона, К. Губарэвіча, А. Макаёнка, А. Дзялендзіка, А. Петрашкевіча, І. Шамякіна, Я. Шабана, І. Чыгрынава, М. Матукоўскага, А. Дударава, У. Бутрамеева, якія ператварыліся ў хвалюючыя спектаклі, а некаторыя з іх — у сапраўдныя падзеі тэатральнага і культурнага жыцця, значнасць якіх нярэдка выходзіла за межы беларускага мастацтва.

Шкада, што ў апошнія гады такіх падзей (маюцца на ўвазе прэм'еры паводле новых беларускіх п'ес) не адбылося. Крызіс ёсць крызіс. Выйсце з яго некаторыя рэжысёры, відаць, натхнёныя прыкладам Е. Міровіча, Ф. Аляхновіча, У. Галубка, убачылі ва ўласнай літаратурнай творчасці. Асабліва актыўна ўзяўся за гэту справу В. Маслюк, чые пэўныя літаратурныя здольнасці праявіліся ўжо досыць даўно. Праўда, у драматургіі яму пакуль шэкспіраўскіх (ці хоць бы дудараўскіх) лаўраў зарабіць не ўдалося...

Што тут сказаць?.. Увогуле, хачу падкрэсліць, я зусім не супраць таго, каб п'есы пісалі рэжысёры, дырэктары тэатраў, акцёры (ім, здаецца, сама Мельпамена загадвае рабіць гэту цяжкую справу!), а таксама крытыкі, міністры і нават шматлікія прэзідэнты, адным словам, усе, хто таго жадае. Я супраць іншага: супраць таго, што падпадае пад "выкарыстанне службовага становішча". На мой погляд, засмечваць акадэмічную сцэну аматарскімі рэфлексіямі — не самы лепшы занятак для прафесійных рэжысёраў (гэты папрок не толькі на адрас В. Маслюка, але і некаторых ягоных "элітных" калег...)

Я свядома завастраю гэтыя пытанні, бо калі тэатральная грамадскасць і далей будзе "спаць у шапку" (як гэта зараз робіць Беларускі Саюз тэатральных дзеячаў), — у XXI стагоддзе беларускі тэатр рызыкуе ўвайсці зусім, калі можна так сказаць, без "амбіцый і амуніцый", і тады ўжо разлічваць на годнае месца ў "сусветнай культурнай прасторы" не прыйдзецца. Тое, што суверэнная Беларусь стала першай дзяржавай у свеце, якая добраахвотна адмовілася ад ядзернай зброі — гэта адно. "Тэатральная зброя" — прыгожыя будынкі тэатраў з сучасным тэхнічным абсталяваннем, добрае фінансаванне, выдатныя прафесійныя кадры, падрыхтаваны і зацікаўлены глядач (сацыяльна ўладкаваны, заможны!), — гэта зусім іншае. Тут усім нам — і грамадскасці, і дзяржаўным структурам — трэба думаць, рупіцца ды імкнуцца ўзброіцца максімальна магчыма...

*На здымках: сцэны са спектакля "Ідылія" з удзелам В. Рэдзькі і В. Манаева.*

*Фота Уладзіміра ШАХЛЕВІЧА*

## ДА 125-ГОДДЗЯ ЛЕСІ УКРАІНКІ

**24 лютага ў Мінску асацыяцыяй украінцаў у Беларусі "Ватра", яе аддзелам украінскай літаратуры ў бібліятэцы N 20 праведзены літаратурны вечар, прысвечаны 125-годдзю з дня нараджэння выдатнай украінскай паэтэсы Лесі Украінкі.**

**Вечар адкрыў віцэ-прэзідэнт асацыяцыі А. Коба. З цікавым выступленнем пра той перыяд жыцця Л. Украінкі, калі яны знаходзілася ў Мінску, выступіў літаратуразнавец Я. Басін.**

**У святочным канцэрце прынялі ўдзел студэнты ўкраінскага аддзялення Белдзяржуніверсітэта, Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі, дыпламанты міжнароднага конкурсу піяністаў Т. Глазірына і рэспубліканскага конкурсу — баяніст Л. Лісенка.**

**Сардэчна віталі прысутных песнямі і прадстаўнікі ўкраінскага хору "Крыніца".**

**Да дня нараджэння Л. Украінкі была падрыхтавана кніжная выстава.**

**Г. КАЛЮЖНАЯ,**
**загадчыца аддзела украінскай літаратуры**

## І ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ БЕЛАРУСІ

**жыў і змагаўся польскі гісторык і грамадскі дзеяч Іяахім Лялевель, з дня нараджэння якога ў сакавіку спаўняецца 210 гадоў (памёр у 1861 годзе). Дарэчы, маці І. Лялевеля паходзіла з Беларусі. Працуючы ў Віленскім універсітэце, І. Лялевель у сваіх лекцыях не абыходзіў мінулага Беларусі і Літвы. Разам з прафесарам гэтай вышэйшай навучальнай установы І. Даніловічам вывучаў помнікі беларуска-літоўскага права. У сваёй працы "Гісторыя Літвы і Расіі аж да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 года" (1839) І. Лялевель, адзначаючы значэнне ў гісторыі Вялікага Ноўгарада, не абыходзіць і сярэдневяковую "рэспубліку" Полацка, гаворыць пра значэнне старабеларускай мовы ў Вялікім княстве Літоўскім, згадвае кнігадрукароў Мамонічаў, піша пра Заблудаўскую друкарню, з павагай згадвае імя Ф. Скарыны. Пры непасрэдным удзеле І. Лялевеля ў 1841 годзе ў Познані быў выдадзены на беларускай мове "Статут Вялікага княства Літоўскага" 1529 года.**

**Кнігі І. Лялевеля былі ў асабістай бібліятэцы У. Сыракомлі, яго непасрэдным вучнем з'яўляўся Я. Чачот. І. Лялевель аказаў вялікі ўплыў на фарміраванне цэлага пакалення рэвалюцыянераў на чале з К. Каліноўскім і З. Серакоўскім. Ён жа, І. Лялевель, кінуў заклік, так добра вядомы сёння — "За нашу і вашу свабоду!".**

## ВЫБРАНАЕ З ПРАЖЫТАГА І НАПІСАНАГА

**Васілю Праскураву ў жніўні сёлетняга года споўнілася б 70 гадоў. На жаль, ужо дзевяць гадоў, як Васіля Фёдаравіча няма з намі. А лепшымі сваімі творамі (В. Праскураў, як вядома, працаваў у галіне дакументалістыкі) ён заслугоўвае добрай памяці. Лепшая ж памяць у дачыненні да літаратара — гэта чытаць і перачытваць яго кнігі. Памятаючы гэта, ва Упраўленні інфармацыі Брэсцкага аблвыканкама паруп'іліся аб выданні аднатомніка выбраных твораў. Ён пад назвай "Наўсцяж вясковай вуліцы" і пабачыў свет у Брэсце. Укладальнік кнігі Алесь Каско зрабіў усё, каб як мага паўней прадставіць творчую спадчыну сумленнага пісьменніка-дакументаліста. У выніку пад адной вокладкай сабраны творы В. Праскурава як вядомыя па ранейшых публікацыях, так і тыя, што па розных прычынах засталіся ў аўтарскіх архівах.**

## ЗАВЕРШАНА ВЫДАННЕ

**чатырохтомніка "Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей", падрыхтаванага супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Упершыню так шырока і грунтоўна разглядаецца праблема творчых кантактаў і ўзаемаўплываў паміж дзвюма суседнімі літаратурамі. Заключная, чацвёртая кніга, якая нядаўна выйшла ў выдавецтве "Навука і тэхніка", ахоплівае шырокі матэрыял, пачынаючы з першага пасляваеннага дзесяцігоддзя і па сённяшні дзень. Тыя, хто набыў папярэднія тамы, мусіць паспяшацца, бо наклад завяршальнай кнігі ўсяго 500 асобнікаў.**

# З ПЕСНЯЙ ПА ГЕРМАНІІ

***Завяршылася двухтыднёвае падарожжа па Германіі Магілёўскага камернага хору, якім кіруе Сяргей Лішчанка.***

***Яшчэ у жніўні мінулага года кіраўнік грамадскай гуманітарнай арганізацыі "GERMAN HANDS" Крыстофер Найтэ наведаў Магілёў. Тады, у час спасаўскіх свят, вядомы магілёўскі фотамастак Васіль Цітоў прапанаваў яму паслухаць выступленне хору ў храме Трох Свяціцеляў. Майстэрства артыстаў зрабіла на немецкага госця непаўторнае ўражанне. Тады і нарадзілася ідэя гэтага падарожжа.***

І вось у студзені, пераадолеўшы мноства арганізацыйных і матэрыяльных перашкод, магілёўскія артысты апынуліся, нарэшце, у Германіі. Праграма іх выступленняў мела дабрачынны характар. Гэта быў знак удзячнасці немецкаму народу за вялікую дапамогу ў пераадоленні наступстваў чарнобыльскай аварыі, прысвечаны 10-й гадавіне гэтай трагедыі.

Больш чым сціплыя фінансавыя магчымасці калектыву прымусілі ўскласці асноўныя бытавыя клопаты на плечы нямецкіх сяброў. Жыць даводзілася і на вайсковай базе бундэсвера, і ў невялічкіх манастырскіх гасцініцах, і ў прыватных дамах гараджан. Нягледзячы на гэта, творчыя вынікі аказаліся даволі значнымі.

Канцэртная праграма ўключала дзве часткі: калядную і класічныя свецкія і духоўныя творы Рахманінава, Часнакова, Бартнянскага і іншых. Шэраг твораў заходнееўрапейскіх аўтараў выконваўся на мовах арыгіналаў. Усяго 10 канцэртаў зрабіў хор, не лічачы невялікіх выступленняў. Тры канцэрты адбыліся ў буйнейшых канцэртных залах, астатнія ў храмах.

Трэба адзначыць, што нават арганізатары гэтай творчай вандроўкі не былі спачатку ўпэўнены ў яе поспеху. Таму на першае выступленне Крыстофер Найтэ запрасіў галоўным чынам блізкі круг сваіх сяброў і знаёмых, рэакцыя якіх была прадказальная. Але эфект пераўзышоў усе чаканні і ўжо з другога канцэрта ўсе выступленні хору ішлі з аншлагам.

Праграма хору атрымала вялікі рэзананс у нямецкай прэсе і на радыё. Ужо пасля трэцяга канцэрта да Сяргея Лішчанкі звярнулуся прадстаўнік вядомай фірмы гуказапісу з Кёльна з дзелавымі прапа-новамі. А неўзабаве адбыўся запіс гадзіннай праграмы хору для выпуску лазернага кампакт-дыска. Выхад яго ў свет чакаецца ўжо ў красавіку гэтага года. Варта нагадаць, што нават для прафесійных эстрадных калектываў і асобных "зорак" на Беларусі з'яўленне кампакт-дыска застаецца пакуль адметнай падзеяй. Такім чынам, камерны хор Магілёва зараз на шляху да вузкага кола абраных у сваім жанры мастацтва.

Сутыкнуліся магілёўскія артысты на нямецкай зямлі яшчэ з адной нязвыклай, але прыемнай для сябе з'явай — у іх з'явіліся "фаны". У час сустрэчы са слухачамі пасля аднаго з выступленняў выявілася, што некаторыя з іх наведалі ўжо па некалькі канцэртаў хору. Улічваючы тое, што канцэрты адбываліся толькі па адным у розных гарадах, размешчаных за 60—100 кіламетраў адзін ад аднаго, можна ацаніць ступень адданасці гэтых людзей сляваўкаму мастацтву.

Больш за дзесяць гарадоў Германіі наведаў хор. Сярод іх Кёльн, Эрфурт, Эйзенах, Веймар, Касель, Бон, Дрэздэн. У вядомай "Курфюрстэнгалерэі" г. Каселя з удзелам хору была адкрыта фотавыстава магілёўскага фотамастака Васіля Цітова. (Дарэчы, В. Цітоў — адзіны мастак на Беларусі, які мае найвышэйшы тытул Міжнароднай федэрацыі мастацкай фатаграфіі — экселенц FIAP). З 10 па 18 студзеня нямецкія гледачы мелі магчымасць пазнаёміцца з 60 творамі магілёўскага майстра. Аб іх вялікай цікавасці да яго работ сведчыць той факт, што ўжо ў час адкрыцця выставы дасягнута дамоўленасць аб адкрыцці ў красавіку аналагічнай выставы ў г. Ленерштат, паступілі іншыя прапановы.

Паездка магілёўскага камернага хору па нямецкай зямлі, фотавыстава твораў В. Цітова дапамаглі лепш паказаць беларускае мастацтва. А разам з тым садзейнічалі збліжэнню двух народаў, іх лепшаму узаемаразуменню.

**Я. УЛАДЗІМІРАЎ**

# ЛЯЧЫЦЬ ХВОРАГА, А НЕ ХВАРОБУ!

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

**П. Міхалевіч:** — Калі пайсці рэвалюцыйным шляхам, дык можна адразу, сёння ж увесці і ўрача агульнай практыкі, і страхавую медыцыну, ды толькі і праўда — дзе тады апынуцца бедныя людзі?! Нават у ЗША, самай багатай краіне свету, па прызнанні самога прэзідэнта Б. Клінтана, 30 працэнтаў насельніцтва аказалася па-за магчымасцю атрымаць медыцынскую дапамогу. А што ў нас? А ў нас тады толькі 30 працэнтаў людзей і атрымаюць яе, а то і менш. Яшчэ раз падкрэслю: нічога з наскоку рабіць нельга. Зламаць усё проста і лёгка, мы наламалі за апошнія дзесяцігоддзі ўга колькі, а вось пабудаваць, стварыць... Тут павінна быць павольная адаптацыя. Спачатку ў выглядзе адной установы, потым нейкага раёна, рэгіёна. Галоўная задача — не дапусціць зніжэння даступнасці медыцынскай дапамогі насельніцтву.

**У. Сыты:** — Мы ўважліва аналізавалі сітуацыю і прыйшлі да высновы, што усё-такі і мы павінны неяк улічваць урокі аховы здароўя цывілізаваных краін. Урач агульнай практыкі, або сямейны ўрач лёгка прыжываецца ў краінах са страхавой медыцынай. Мы для сябе вызначылі тут такую канцэпцыю, што, з улікам ужо развітой паліклінічнай службы, нельга сёння рэзка ламаць сістэму вялізных паліклінік на тысячы наведвальнікаў. Заходняя сістэма аховы здароўя арыентавана на больш дробныя цэнтры здароўя, максімальна набліжаныя да жыхароў дадзенага раёна. Калі, скажам, у новым мікрараёне здаецца ў эксплуатацыю дом, мы рэкамендуем выдзяляць пад амбулаторыю ўрача агульнай практыкі 4-пакаёвую ці дзве 2-пакаёвыя кватэры. Скажам, здаецца дом на 100 кватэр. У кожнай кватэры будзе прыкладна жыць па 3 чалавекі, значыць, у чатырохпяці такіх дамах будзе жыць недзе каля 1200—1500 чалавек. Гэта якраз той кантынгент, з якім ужо можа працаваць урач агульнай практыкі. Тут, у адным з гэтых дамоў, у якім абсталюецца ягоная амбулаторыя, ён будзе працаваць у зручны для жыхароў час. Мяркую, што мы павінны знайсці для вырашэння праблемы і нейкі эканамічны рычаг. Такі ўрач павінен будзе сам зацікаўлены ў добрай, сумленнай працы, калі не ад колькасці бліклікаў будзе залежаць ягонае матэрыяльнае становішча. Пакуль што мы не змаглі прывесці ў адпаведнасць, скажам, кваліфікацыю, узровень ведаў, добрасумленнасць у абслугоўванні пацыентаў з зарплатай урача. Наша задача ў тым, каб якасць работы ўрача вызначаў не загадчык аддзялення, не галоўны ўрач, а сам хворы, і каб мянавіта ад гэтага залежала матэрыяльнае становішча ўрача. Да апошняга павышэння зарплата ўрача была недзе ў межах 400—600 тысяч рублёў. Гэта — мізэр, узровень пенсіі. Урач заўсёды асацыіраваўся ў нас з інтэлігентным чалавекам. Але ж які з яго інтэлігент, калі ён на харчы не зарабляе, не кажучы пра тое, каб набыць і пачытаць патрэбную кнігу, паехаць куды-небудзь турыстам, адпачыць па-сапраўднаму. Наш урач не можа сабе дазволіць гэтага. А ўрачу адпачываць трэба. Адзін службовец гарвыканкама неяк плакаўся, што ў дні прыёму ён вельмі стамляецца, бо чуе толькі скаргі-скаргі-скаргі. Ну, а як тады дастаецца ўрачу штодня? Ды не штодня, а ўсё жыццё! Усё жыццё ён чуе ад хворых людзей яшчэ горшыя скаргі. Хто ведае, хто разумее, як гэта ўсё цэніць, прыгнятае? Толькі сам урач ды ягоныя блізкія. Дзе і як адпачыць урачу сёння? На лыжах пакатацца? Дык жа ён тых лыж купіць не можа. У тэатр, на канцэрт схадзіць? Дык жа вунь колькі тыя білеты каштуюць! На апошнюю оперную зорку — ад 300 тысяч да паўтара мільёна рублёў! Яшчэ раз нагадаю: мы лічым, што трэба знайсці форму матэрыяльнага стымулявання аплаты працы ўрача, пры гэтым улічваючы іменна ацэнку самім хворым лячэння ў дадзенага доктара. І тут не ідзе гаворка аб платнай медыцыне. Наша грамадства беднае, аб платнай медыцыне нам гаварыць пакуль што рана. Сёння мы можам па праву ганарыцца тым, што максімальна захавалі нашу, так званую бясплатную сістэму аховы здароўя, якая не пакідае ўсё ж чалавека сам-насам з ягонаю бядою, а памагае яму, хай і не так, як хацелася б.

**М. Саўчанка:** — Платная медыцына ў нас будзе, нікуды ад гэтага не дзецца. Ёсць шэраг захворванняў, за лячэнне якіх дапушчальна, нават не грэшна браць плату. Скажам, розныя касметычныя ўмяшальніцтвы, палавыя расстройствы і іншыя захворванні, якія не пагражаюць жыццю чалавека. А ўвогуле — усё вельмі няпроста. Адзін мае магчымасць плаціць, другі — не мае. Што атрымліваецца? Дапусцім, пакладзем мы ў адну палату аднаго і другога. Адзін, так званы "новы беларус", будзе есці ананасы і рабчыкі, а другі — посныя макароны. Сацыяльнай напружнасці ў такіх выпадках не пазбегнуць. Тут усё павінна быць прадумана і дыферэнцыравана. Вядома, такіх сум, якія мы бяром ужо сёння з іншаземцаў, мы нават з "новых беларусаў" яшчэ не гатовы браць. Вось, скажам, рабіў у нас аперацыю адзін француз, праляжаў 4 дні, заплаціў 800 долараў. Для нашай клінікі гэта ўжо грошы. Альбо ляжаў хворы з Калінінграда, заплаціў за 7 дзён мільён рублёў. Калі мы будзем вось так браць грошы і зарабляць, то зможам разгрузіць бюджэт, аднак жа... З іншаземца мы бяром 52 долары за дзень знаходжання ў клініцы, але на такія грошы мы павінны забяспечваць адпаведна і яго ўтрыманне-догляд, і лячэнне. Аналіз крыві, скажам, каштуе для іншаземца 15 долараў, аналіз мачы — 13 долараў. Калі б мы ўвялі такія цэны для ўсіх, дык... не было б тады каго лячыць. Хіба толькі нейкіх 5 працэнтаў насельніцтва, тых самых "новых беларусаў". Праўда, як ні дзіўна, і яны таксама імкнуцца лячыцца бясплатна.

Але асноўная, базавая медыцына павінна быць бясплатнай. Ва ўсім свеце багаты плаціць за беднага. І калі мы хочам у нашай краіне мець сапраўднага "сямейнага ўрача", дык ён павінен мець за сваю работу адпаведную грашовую ўзнагароду. Яго можна будзе выклікаць у любы час дня і ночы, ён павінен аказаць і хуткую, неадкладную дапамогу. Ён павінен, як "сямейны ўрач", арганічна ўрасці ў жыццё сям'і, ісці разам з ёю па гэтым жыцці. Само сабою, вядома, што пытанне "сямейнага ўрача", "урача агульнай практыкі" — гэта пытанне не аднаго дня, гэта пытанне цэлага пакалення ўрачоў...

Што дадаць да гэтага? Якім чынам падсумаваць, падагуліць пачутае? Пытанне пра так званага "сямейнага ўрача", з якім я ішла на сустрэчу са "свяціламі", — не адасобленае ад агульнай сістэмы аховы здароўя. І гаворка вакол яго, як чытач пераканаўся, выйшла на больш шырокія, маштабныя пытанні, і тычылася не столькі заўтрашняга дня, будучыні нашай аховы здароўя, колькі яе сённяшніх набалелых праблем.

**Гутарыла і звяла суразмоўцаў разам на гэтай газетнай старонцы Марыя ГІЛЕВІЧ**

## ГРАФІКА ВАЛЕРЫЯ БЕЛАГА



**У абласным краязнаўчым музеі ў Віцебску прайшла выстава графічных работ віцебскага мастака Валерыя Белага. У яго творах знайшлі ўвасабленне вечныя праблемы любві і філасофія пачуццяў.**



*На здымках: Валерый Белы; работа В. Белага "Запрашэнне на танец".*

*Фота БЕЛТА*

## "ПА ЗЯЛЁНЫХ ГУРБАХ АКІЯНА"



**У Тэатры юнага гледача — прэм'ера. Рэжысёр Аляксандр Курловіч паставіў для дзяцей новы спектакль "Па зялёных гурбах акіяна". Гэтую п'есу-казку напісаў Сяргей Казлоў. У пастаноўцы спектакля Аляксандру Курловічу памагалі — мастак Ларыса Рулёва, кампазітар Уладзімір Кандрусевіч, балетмайстар Анатоль Кастрыцкі.**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота БЕЛТА*

## ДЗЕЛЯ ВЫХАВАННЯ

**моладзі ў духу беларускасці выходзіў з лютага 1921 года да студзеня 1923-га ў Вільні беларускі маладзёжны часопіс "Маладое жыццё". На жаль, адбывалася гэта неперыядычна, пабачыла свет усяго сем нумароў. У іх змешчаны вершы У. Жылкі, І. Дварчаніна, У. Дубоўкі і іншых аўтараў, апавяданні і замалёўкі Я. Драздовіча, М. Ільяшэвіча, артыкулы, нарысы, прысвечаныя творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Коласа; у перакладзе на беларускую мову апублікаваны творы А. Герцэна, І. Тургенева, Г. Лангфела. Была шырока прадстаўлена хроніка культурнага жыцця.**

# ПРА "ЕВАНГЕЛЛЕ АД ВАСІЛЯ"

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Біблейскую камісію БПЦ узначальвае Мітрапаліт Філарэт. Яна ўтворана ў 1990 годзе па яго благаславенні. Спадар Сёмуха ў сваім інтэрв'ю так кажа аб адносінах уладыкі Філарэта да перакладу на беларускую мову: "Он был и остается врагом этого дела", а далей: "в книге я выразил благодарность Филарету, который был инициатором этого дела". Дык "вораг" ці "не"?

Калі аб'ектыўна, то за час архіерэйства ўладыкі Філарэта зроблена нямала для нацыянальнага адраджэння Беларусі, калі разглядаць апошняе ў больш шырокім плане, чым толькі моўнае адраджэнне, ды і беларуская мова паступова ўваходзіць у жыццё Царквы. Збіраюцца і вывучаюцца матэрыялы па гісторыі праваслаўнай Царквы на Беларусі, аб яе святых і мучаніках за веру, аб царкоўнай архітэктуры і г. д. Ідзе работа па будаўніцтве храмаў, адраджэнні манастыроў, станаўленні епархіяльнага прыходскага жыцця. Актыўную дзейнасць вядзе беларускае Брацтва Святых Віленскіх Мучанікаў — арганізуе асветніцкія семінары, сустрэчы з беларусамі замежжа, паломніцтвы да святыняў Вільні і Беласточчыны, здзяйсняецца выданне перакладаў царкоўных тэкстаў, распаўсюджанне беларускіх духоўных спеваў, — шмат карыснага ў рэчышчы адраджэння беларушчыны. Што тычыцца мовы, то яна выкладаецца ў духоўнай семінарыі, на ёй чытаецца курс лекцый "Гісторыя Свяшчэннага Пісання", выдаецца часопіс "Праваслаўе ў Беларусі ў свеце". На дзвюх мовах друкуюцца матэрыялы ў царкоўнай перыёдыцы, праводзяцца навукова-багаслаўскія калёквіумы і "Епархіяльныя чытанні" ў Беларускім Экзархаце. Пропаведзь таксама на дзвюх мовах па патрэбе паствы і магчымасці святароў (многія з іх вучыліся ў Маскве і Пецярбурзе). Умова адна — добры ўзровень. У адносінах мовы — поўная свабода, да таго ж святары, што добра валодаюць беларускай мовай, падтрымліваюцца епіскапатам. Споведзь таксама прымаецца на дзвюх мовах. Улічваецца і тое, што Царква шматнацыянальная.

Таму казаць, што Беларуская Праваслаўная Царква і яе Прадстаяцель супраць усяго беларускага, можа хіба толькі чалавек, які не ведае царкоўнага жыцця, альбо свядома ставарае вобраз ворага народа. Тут трэба зазначыць, што прыхільнікі хуткай "беларусізацыі" забываюцца на тую асаблівасць Праваслаўнай Царквы, што яна саборная, а гэта значыць, што ні адзін іерарх, нават Патрыярх, не можа ўнесці прымусам, сваёй уладай нешта кардынальна новае без згоды ўсёй Царквы — епіскапата, святароў, вернікаў. Вырашае сабор. Мы можам толькі дзякаваць Богу, што ў нас у Царкве ўсё мірна, няма расколу, як на Украіне, дзе кіпяць нацыянальныя нязгоды: распаліць агонь значна лягчэй, чым яго згасіць.

Зусім здзекліва гучаць словы сп. Сёмухі аб царкоўна-славянскай мове. Цяжка зразумець, як можа перакладчык Св. Пісання, філолаг і славянін так негатыўна ставіцца да моўных скарбаў продкаў, да прыгожай, узнёслай мовы богаслужэння славянскіх народаў. Вялікую шкоду нашай мове нанесла антыцаркоўнасць атэістычных часоў, калі забаранілі вывучэнне славянскай мовы ў школе. Цяпер патрэбна адраджэнне, а не пахаванне жывой традыцыі, як мастка да моўных скарбаў мінуўшчыны, да духоўнага адзінства з іншымі славянскімі народамі. Скарбы славянскай мовы могуць дапамагчы ўзбагаціць беларускую літаратурную мову словамі высокай духоўнасці. Нездарма ўсе традыцыйныя Цэрквы захоўваюць у богаслужэнні свае старажытныя мовы — Грэчаская, Грузінская, Руская і іншыя, ды і Ватыкан не адмаўляецца ад лаціны ў папскіх месах. Чаму ж мы павінны выракацца? Але адносіны да царкоўна-славянскай мовы — асобная тэма, нашыя развагі на гэтую тэму змешчаны ў часопісе "Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце" (1995, N 3).

Яшчэ некалькі слоў аб дзейнасці Біблейскай камісіі БПЦ і ўдзелу ў ёй сп. Сёмухі. Камісія была створана не дзеля ацэнкі перакладу сп. Сёмухі, як ён кажа. Недакладна і тое, што "ее мой перевод совершенно не устроил" — проста ў час сумеснай работы былі нязгоды з асобнымі момантамі яго перакладу. Ніхто не адмаўляў зробленую ім вялікую працу, да таго ж камісія мела першы варыянт перакладу, над якім аўтар пасля яшчэ доўга працаваў. Немагчыма было, напрыклад, прыняць замену перакладчыкам старазапаветнага слова "Пасха" словам "Вялікдзень", калі размова ішла аб апошняй вячэры Хрыста з вучнямі. Слова "Пасха" мае глыбокі рэлігійны і гістарычны сэнс: у час Пасхі яўрэі прыносілі ў ахвяру Богу ягня, а хрысціянская Пасха — гэта прынясенне Хрыстом Сябе ў ахвяру за грахі нашыя ("Агнец Божий Распятый за грехи наши"). Таму і гучыць у старажытным царкоўным спеве: "Пасха Красная Христос Бог наш". Уваскрэсенне Хрыста — гэта і ёсць Пасха хрысціянская, а Вялікаднем называецца яна не ў Св. Пісанні ці богаслужэнні, а ў побыце, у літаратуры, у народных спевах, як найменне вялікага свята. Святіцель Кірыл Тураўскі некалі казаў: "Воскресение бо Христово Велики день нарицается". А ў іншым старажытным царкоўным тэксце ёсць словы: "Велик день тоя Субботы", але слова "Пасха" застаецца. Урэшце, сп. Сёмуха згадзіўся і ў канчатковым варыянце перакладу захаваў "Пасху".

Дарэмна абураны сп. Сёмуха, што ў царкоўным выданні "Евангелля ад Матфея" "в выходных данных даже не упомянуто мое имя": па царкоўнай традыцыі імёны перакладчыкаў Святых кніг не пазначаюцца, як імёны іканапісцаў. Але каб неяк паказаць, хто адказны за пераклад, мы спачатку вырашылі ў выданні для абмеркавання даць прозвішчы ўсіх членаў камісіі. Я, як аўтар прадмовы, запытала сп. Сёмуху, ці згодны ён, каб і яго прозвішча было — ён адмовіўся.

# ІДУ СЛУЖЫЦЬ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Алеся пацягнулі за руку ў тым напрамку, не груба, проста падштурхвалі, не даючы спыніцца. Ён сеў на нешта халоднае і цвёрдае, бы камень. Яму ўжо бесцырымонна завязалі вочы. Ён зноў адчуў тое лагоднае паляпванне па плячы, мусіць, з ім развіталіся. Гул мацнеў, мацнеў, а Алесю хацелася выбегчы адсюль, дзе-небудзь схавацца, каб было ціха, ціха. Потым у галаве ўзнік чырвоны шар, які праз імгненне выцягнуўся ў даўжэзную вогненную вужаку ў пяць пашчаў. І ўсё знікла. Толькі высока-высока на краі белага воблака стаяў Бог і пільна сачыў, як ён ляціць, раскінуўшы рукі і ногі, шпарчэй, чым птушка. Паабапал застаюцца горы і лясы, рэкі і азёры, вёскі і гарады. Бог, здаецца, так блізка, што, калі добра напяцца, дастанеш рукою. Відаць сумная ўсмешка і вочы, якія шкадуюць яго. Алесь ад удзячнасці хоча заплакаць, а слёз няма. Хоча сказаць, але і слоў няма. Усё — пустэча, шэра-жоўты пясок, пясок і цемра. Якая доўжыцца немаведама колькі. І гэта ноч ці чорная сцяна, а потым — холад. Ён сцінае яшчэ гарачае цела. І, можа, зараз цяпло адыдзе ад яго, каб асвятліць гэтую цемру...

...Усё, больш спаць не хачу і зараз падымуся. Правы бок так баліць, нібы хтось добра ўпэндзіў па ім ладным кіем. Халера, ніколі не адчуваў такога болю. Я адкідваў з сябе пярэстую коўдру і — што бачу? Так і ёсць. Правы бок быццам выпацканы чорнай фарбай. Скуль у мяне гэткі сіняк? Нешта не помню, каб падаў ці з кімсьці біўся. Я ж не дурань свой бок падстаўляць. Каб яшчэ мяне білі! Біў я, гэта — праўда. Але каб мяне?.. Чорт пабраў бы таго, хто пачарніў мяне. Нічога, хай толькі даведаюся, — будзе ім свята. Да магілы не забудуць, што ёсць на гэтым свеце я. Хто я? Якая розніца... Цела сваё адчуваю, сілу таксама... І вось есці хачу.

Я азіраюся і не магу даўмецца, у якую гэта халабуду трапіў. Маленькі з нізенькай столлю пакойчык, на сценах якога ў рамках і без рамак фотакарткі. Іх шмат — жанчыны, мужчыны, дзеці. Усе незнаёмыя твары. Толькі адзін у вайсковай форме, нібыта... Не, здалося, скуль я яго ведаю... Што за дом? Маленькія вокны, нейкія анучы на падлозе. Ладна, паглядзім. У што мне адзецца? У гэтую кашулю і штаны... Нейкія галасы за дзвярыма. Адчыняю іх... За сталом, склаўшы рукі на каленях, сядзяць стары са старою, нечым падобныя на таго вайскоўца. Убачылі мяне, заўсміхаліся сваімі бяззубымі ратамі. Ці яны нешта чакалі, што я падару ім. Даў бы, здаецца, у лыч аднаму і другой. Але я спакойны, вельмі спакойны. Трэба зарыентавацца ў абстаноўцы, а пасля ўжо вырашаць, што рабіць.

Стары са старою ледзь не бегма кінуліся да мяне, лезуць абдымацца. Цалуюць, а на вачах — слёзы. Што за дурні! Як можна адразу цалаваць і плакаць?! Мне іхнія слёзы, як вада ў тым вядры. Нічога не вартая. Выліў на зямлю, высахла і амаль следу няма аніякага. Што ж гэта яны такога ўбачылі ўва мне? Але пацярплю, не буду спяшацца. Зараз мне самае важнае: добра падсілкавацца, каб, калі хто ўздумае прычапіцца, адным ударам прымусіць есці зямлю сваім паганым ротам.

Я, нічога не кажучы, адхіліў ад сябе старых і сеў за стол. Гэткі ж, мабыць, старэнькі, як і гаспадары хаты. Над галавою штосьці цікала. Я бакавым зрокам убачыў на сцяне размаляваную скрыначку са стрэлкамі, з яе поўз тонкі ланцужок з процівагаю на канцы. Процівага была скіравана проста на маю галаву. Гэткай зброі я нешта не помніў, але як яна дзейнічае, — мне не трэба тлумачыць. Процівага б'е па галаве і ты часова адключаешся. Не той я чалавек. Я так імкліва ўзмахнуў рукою, што старыя нават не заўважылі, як скрынка са сваімі прычындаламі ляжала ля парога. Такое здзіўленне было на іхніх тварах, нібыта яна ўпала каму-небудзь на галаву. Старая зноў заплакала. І чаго, дурніца? Падзякавала б яшчэ за тое, што няшчасце не адбылося. Ім жа галаву не праламала процівага. А як яны апрануты, нібы пудзілы? У старога штаны і кашуля — латка на латцы. Я б такое рыззё не ўзяў бы рухавік у танку выціраць ад мазуту ці масла.

Дзе, зрэшты, мая порцыя ежы? Нібыта адчуўшы мой апетыт, старая кінулася да печы. Насыпала ў міску бульбы, прынесла аднекуль з-за дзвярэй сала, агуркоў, кіслай капусты і акрайчык хлеба, паклаўшы яго на бялюткі ручнік.

Усё з'еў, толькі дзед з бабкаю паспелі з-пад рук выхапіць некалькі бульбін і агурок. Ладна, хай і ім штосьці на зуб пападзе. Маўчаць. І я маўчу. У старой слёзы па маршчыністай шчацэ так і коцяцца, нібы ў вачах ў яе крыніца. Нешта знаёмае мне здаецца ў ёй, быццам яе скуль ведаю. Дый старога... Мо таму, што бачыў на фотакартках, якія на сценах у маім пакоі.

Адчуваю сябе ўжо дужым і здольным рухацца наперад. Няхай толькі ўзнікне вораг на шляху, дабра яму не чакаць. Мне і зброі не трэба, знішчу, пераламлю пазванок аб калена, як сухую палку, і кіну здыхаць у прыдарожную канаву. Старыя на мяне глядзяць, бы на Бога, які склеіў мяне з кавалачкаў і паслаў у гэтую занядбаную хатку. Я маўчу і разважаю, што павінен зараз рабіць, трохі падсілкаваўшыся. Мне хочацца гэтых старых выгнаць адсюль, каб не мазолілі вочы, не псавалі настрой, які стаў больш-менш нармальны, калі ў страўнік трапіла ежа.

Выйду з хаты, пабачу, што за акном. Дрэвы там калышуцца, сонца свеціць. Кліча мяне, нібы запрашае ў госці. Ля старога на стале ляжыць газета. Я таксама ўмею чытаць, але так даўно не бачыў газет і... кніг. Такія тоўстыя, з малюнкамі. Аднак помню, што іх шкодна чытаць, недзе я паліў кнігі ў вялізным вогнішчы. Яны трашчалі і весела гарэлі. Не помню, дзе гэта было... Газеты — іншае, як загад камандзіра. Ну, што ўталопіўся на мяне? Аддам тваю газету, аддам. І што тут пішуць? Унь як: хай жыве наш Генерал, лепшы кіраўнік краіны Тапінамбур! Далей... Наш Генерал у гасцях у недаразвітых дзяцей, спявае з імі песню пра ластаўку. Высока ляціць у небе ластаўка і славіць нашага Генерала, якога любяць усе тапінамбурцы. Што ні кажы, але прыгожы Генерал. Я б згадзіўся служыць яму. Не задумваючыся застрэліў бы кожнага, хто пайшоў бы насуперак гэтаму чалавека. Вочы ў яго — нібы аўтаматныя кулі, якія знішчаць любую

Тады, каб не было крыўды, далі наогул без прозвішчаў (я, зрэшты, не лічу, што праца, напрыклад, святара Сергія Гардуна ў нашай камісіі была менш значная, чым сп. Сёмухі). Ну а што тысячца адмоўных слоў аб справе перакладу Евангелля наогул, якія надаў мне спадар Сёмуха, то я такога глупства не магла сказаць, бо не для таго маё жыццё было аддадзена беларускаму мастацтву, культуры, біблеістыцы... Даруй, Божа, чалавеку гэтую блытаніну, бо я ж нават у Экзархаце не працую, каб не прыняць, як ён кажа, ягоны пераклад. Ну а прэзентацый сваіх выданняў Царква не рабіла і не збіраецца рабіць.

Блытаніны шмат: чаго, напрыклад, варта сцвярджэнне, што пераклад экуменічны, "потому что он был создан в сотрудничестве нескольких церквей — православной, протестантской, баптистской, пятидесятницкой, была помощь со стороны католиков, униатов". Між іншым, абмеркавання ў цэрквах гэтага перакладу не было, а дапамога асобных людзей — гэта далёка не сумесная праца царкваў, а тым больш не экуменізм. Праваслаўная Царква Беларусі наогул не знаёмілася з апошнім варыянтам перакладу сп. Сёмухі. Тое, што пераклад прыняў уладыка Мікалай, то гэта ягоная справа епіскапа, што даць вернікам сваіх беларускіх замежных прыходаў, да таго ж ён працаваў з перакладам сп. Сёмухі. Адносіны з гэтым іерархам у Беларускай Праваслаўнай Царквы нармальныя: уладыка Мікалай прыязджаў у Мінск, быў цёпла прыняты, правіў Божую Літургію ў крыжовай царкве Усіх Беларускіх Святых, што ў Экзархаце, пасля адпраўлены быў беларускі малебен у саборы св. апосталаў Пятра і Паўла; уладыка Мікалай віншаваў нашу Царкву з нагоды 1000-годдзя Праваслаўя на Беларусі, былі адпаведныя прывітанні БПЦ. Незразумела, чаму сп. Сёмуха шукае нейкую крыўду і для ўладыкі Мікалая: няўжо трэба пасеяць нейкую варожасць? Наогул жа крыўда, раздражненне — самыя надобрыя дарадчыкі: крыўда, як іржа, з'ядае сэрца чалавека.

Дай Бог спадару Сёмуху ў новым годзе міру душэўнага і разумення таго, што Царква — гэта "не порождение грешного человека", а Цела Хрыстова, у якім жыве Святы Дух. Бо вялікая бяда для хрышчонага чалавека адрачыся ад Царквы. Нездарма народ наш кажа: "Каму Царква не маці, таму Бог не бацька".

**Валянціна ДЫШЫНЕВІЧ,**
**член Біблейскай камісіі**
**Беларускага Экзархата РПЦ**

**Ад рэдакцыі.**

У размовах члена біблейскай камісіі В. Дышыневіч ёсць, пэўна, нямала слушнага, і з гэтае прычыны мы вырашылі надрукаваць іх. Аднак жа і ў інтэрв'ю В. Сёмухі газеце "Имя" далёка не ўсё спрэчнае. Пакінем пытанні саборнасці, экуменічнасці, кананічнасці перакладаў Біблii і іншых рэлігійных тэкстаў спецыялістам, тут В. Сёмуха сапраўды, можа, не ва ўсім мае рацыю. Ды толькі пафас (ды і змест) ягонага інтэрв'ю заключаецца, бадай, у іншым. Вось дзве цытаты. "Начиналась же эта работа как раз по инициативе Филарета. Это был 1988 год, когда шли активные процессы белорусизации, и церкви тоже надо было как-то приспосабливаться к быстро меняющимся условиям. Тогда и было выдвинуто и такое предложение"; "Я начинал этот перевод ради самого языка, который сегодня умирает, а язык, на котором человек может говорить с Богом, сразу приобретает иной статус. На всех языках Библия есть, а нам, белорусам, даже этого не дано, мол, в храме Божьем говорить на этом мужицком языке — только Бога оскорблять. Но ведь нам Бог дал именно этот язык, и он его понимает". Гэтага сп. Дышыневіч у інтэрв'ю В. Сёмухі як бы не заўважае, а гэта ж — ці не галоўнае ў ім. Тут — Сёмухава праўда. Праваслаўная царква ў Беларусі толькі па назве беларуская, а па духу — усё тая ж РПЦ. І калі, як кажа В. Сёмуха, у 1988 годзе яна спрабавала хоць "как-то приспосабливаться" да беларускіх варункаў, дык цяпер, бадай, і таго не робіць. І беларус па-ранейшаму часцей вымушаны гаварыць з Богам ці па-руску, ці папольску. І па-ранейшаму ідэя Бога не яднае наш народ, а раздзяляе. І ў гэтым, пэўна, наша найбольшая бяда, мо нават трагедыя.

# ПАМЯЦІ ІГАРА ПАЛІВОДЫ

Яго пахавалі ў першы дзень вясны. Яму было крыху больш за сорак. Ён быў таленавіты і вядомы...

Патомны музыкант, сын знанага піяніста Ігара Пятровіча Паляводы (якое трагічнае выпрабаванне — перажыць роднае дзіця!). Ігар Палівода вылучыўся яшчэ падчас навучэння ў Рэспубліканскім ліцэі пры Беларускай акадэміі музыкі. У стасунках з фартэпіяна ён, здавалася, не меў праблем: віртуозная тэхніка, пачуццё стылю, густ... На "капусніках" у кансерваторыі шумны поспех меў дуэт бліскучых дасціпных імправізатараў, можна сказаць, музычных парадыстаў Ігара Паліводы і Васіля Раінчыка, якія сядалі за раялі візаві ды сваёй ігрой даводзілі публіку да экстазу.

Аднак ад кар'еры саліста Ігар Палівода адмовіўся. Працаваў у "Песнярах". Апошнім часам — у Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Меў добрае імя як аранжыроўшчык, "клавішнік" і — кампазітар. На эстрадзе быў адным з нямногіх, каб не сказаць — адзіным, музыкантам з акадэмічнай адукацыяй, шырокай эрудыцыяй, вытанчаным густам і творчым дарам. Згадайма: буйная праца паводле вершаў Роберта Бёрнса, поп-опера "Максім", прысвечаная светламу вобразу Багдановіча, кампазіцыя на вершы Аркадзя Куляшова, дый шэраг адметных песень на тэксты беларускіх паэтаў. Лепшае — не забудзецца, яно гучыць, мае папулярнасць. Нездарма ж зусім нядаўна Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі правёў аўтарскую вечарыну Ігара Паліводы, заслужанага артыста, творцы ў росквіце сіл... Але ўсё ж была нейкая больш моцная сіла, якая прымусіла спыніцца чулае музыканцкае сэрца...

Яго хавалі ў першы дзень вясны. Смуткавалі равеснікі і старэйшыя калегі, сябры і проста прыхільнікі творчасці гэтага сціплага і прыгожага чалавека. Смуткавалі моўчкі ды галосна.

Паэт Мікола Яцкоў адгукнуўся на неспадзяваны адыход Музыканта — вершам:

**Калі цемра глытае**
**Нашых лепшых сяброў, —**
**Страта чорная тая**
**Выпівае ўсю кроў,**
**І нічым не памераць**
**Безвыходнасці той...**
**Зачыняюцца дзверы**
**У таямнічы пакой,**
**Дзе ні сцен, ні падлогі,**
**Ні празрыстых акон, —**
**Толькі холад аблогі**
**Ды знікаючы звон.**



перашкоду. Такога чалавека можна любіць і паважаць, не тое, што гэты дзед. Баязліва ўжо глядзіць на мяне, толькі нешта ўсё шэпча сваімі выцвілымі ад старасці вуснамі. А ў бабкі страх уваччу. Гэта не людзі, смецце, яны нічога не вартыя. Ці вартыя нават жыць у сваёй будцы-хатцы? Ладна, жывіце! Мне ж трэба нешта есці, дык і гатуйце ежу, каб мой страўнік не пачаў есці мяне самога.

Я агледзеўся яшчэ раз і басаног, бо не ведаў што абуць, выйшаў да дрэў і сонца, промні якога сустрэлі мяне на ганку і праз вочы, здалося, пацэлілі ў галаву. Глыбока, ажно ў патыліцу. Адзін з промняў зашаптаў-загаварыў голасам, які я некалі чуў: "Служы нашаму Генералу! Любі нашага Генерала! Прыйдзе твой час..." Што гэта за насланнё, хто можа так гаманіць? Побач нікога, ні душы. Толькі ў вакне расплюшчаныя аб шкло твары старых. На двары цёпла-цёпла. Сонца слепіць няўмольна. Але яно так далёка. Нейкае глупства апанавала мяне. Ці мо я звар'яцеў? Я ж нармальны чалавек, з рукамі і нагамі, галавою. У мяне ёсць язык і вочы...

Я пайшоў па зямлі, і яна мне здалася мяккай і ласкавай, бы рукі шпітальнай жанчыны, якая хацела ад мяне кахання і я ёй даваў яго. Пахнуць дрэвы, паветра, сцены гэтай хаткі... Якая зялёная трава і даволі смачная. Але ж гэта колькі трэба яе з'есці, каб супакоіць апетыт.

Па двары бегалі куры, і гэта было, канечне ж, неблагое мяса. Я ўявіў, што калі распаліць вогнішча, неабавязкова такое, у якім знішчалі кніжкі, а трошкі меншае, дык можна і падсмажыць такую птушку. Але мне зараз не хочацца есці. Спатрэбіцца, я ўнь там, ля дрэва, запалю вогнішча і зраблю сабе адпачынак.

А што за скрыўленымі варотамі, куды вядзе гэтая дарога? Паглядзім, магчыма, там і няма аніякай небяспекі. Усё адно трэба быць у насцярозе. Мне нельга расслабіцца. У мяне пачуццё, штосьці чакае наперадзе. Ні на хвіліну не знікае з вачэй партрэт Генерала, якога я палюбіў, толькі ўбачыўшы ў газеце. Я буду верным ягоным салдатам, буду. Вось ён, вось... На вуліцы на суседняй хатцы я убачыў каляровы, недзе паўметра на метр, партрэт. На ім мой Генерал усміхаўся, нібы вітаючы мяне. Я стаў як па камандзе, у струнку і аддаў чэсць.

Ля хаты на лаўцы сядзеў мужчына, таксама падалося, што знаёмы. Аднак я яго ніколі і нідзе не сустракаў. Прынамсі не магло такога быць. Не спадабалася, што аддаў чэсць Генералу, хоць знешне і не відаць было, але я здагадаўся: у душы смяецца з мяне. А хто гэта яму дазволіў? У мяне ў галаве запаліўся чырвоны вогненны шар, які пачаў імкліва расці ў памерах і зараз разарве чэрап, калі я не ляпну па гэтай усмешлівай мордзе. Мне трэба ратавацца ад шара і думаць пра будучыню, як аддана служыць нашаму Генералу. Мне дастаткова было ўзмахнуць рукою, як гэты слабак уверх нагамі паляцеў, нібы муха, са свайго седала. І ў галаве не стала чырвонага шара. Я пастаяў трошкі ля гэтага слабака, паўзіраўся, каб хоць не адкінуў капыты. Не, паружавеў твар, задыхаў. Жыві, дурань! Я ўзяў яго за руку, падняў і паклаў на лаўку. Пайшоў далей па вуліцы, здзіўляючыся, у якіх хлявах жывуць тут людзі і што яны ядуць. Радасна было ад таго, што на кожнай хаце — на сценах і на франтонах — красаваўся Генерал, нібы аглядваў сваім позіркам усю прастору, гэтыя дрэвы і худзенькіх, маленькіх, бы сабак, кароў, траву, якая была чыстая і дагледжаная лепш, чым прычоска на маёй галаве. Дзеці бегалі па траве і грызлі яе, грызлі, а твары ў іх былі такога ж зялёнага колеру. Падумалася: з маленства рыхтуюцца да вайны, набываюць маскіровачны колер. Такіх салдат Генерала ніводнае войска не здолее перамагчы.

Нехта мне ўпарта глядзеў у спіну, ішоў крок у крок за мной. Я зрабіў выгляд, што зрываю лісток з дрэва і, трошкі нахіліўшы твар улева, убачыў старога. Ён ледзьве цягнуў ногі, згорбіўшыся, быццам нёс на плячах мінамёт з поўным баявым запасам. Сачыў за мною, але ж надта адкрыта, не хаваючыся і не баючыся мяне. Зрэдку нахіляўся да зямлі, рваў траву і еў. Нібыта авечка на лузе. Канечне, ж я з'еў усю бульбу і сала і не хачу есці.

Я спыніўся і вырашыў не звяртаць больш на старога ўвагі. Вельмі ж нязначны ён быў для мяне працўнік, слабейшы за муху, якая можа ўцячы ад маёй рукі. З двара насупраць паціху пачалі выпаўзаць нейкія панылыя, бы аб'еліся травою, жанчыны і мужчыны ў чорных вопратках. Яны неслі ў руках доўгую драўляную скрыню, у якой ляжаў чалавек. Мабыць, нябожчык, бо інакш — чаму б ён ляжаў у гэтай скрыні. Але ж такая цяплынь, сонца пасылае зноў мне свае незвычайныя промні, і я смяюся. Мне смешна, што ў гэтую гарачыню людзі ў чорных залапленых рознакаляровымі латкамі штанах і кашулях. Нейкія... У іх зусім няма мазгоў. Дый навошта некаму несці нябожчыка, калі можна выкапаць за хатаю яму і ўкінуць яго туды. Пасля бою на вайне ці насіў я з салдатамі кудысь забітых, — мы хавалі іх на месцы. Дзе ўпаў, там яму і магіла. Альбо дзе лягчэй капаць. Ці проста закідвалі каменнем. На вайне, як на вайне.

Да мяне падбягае недаростак-мужчына і крычыць, міргаючы, бы заяц, вачыма:

— Навошта смяешся?! Ён жа быў нашым сябрам!.. Ён памёр, — потым гэты малы б'е сваёй слабой рукою мяне па твары і адразу адскокае ўбок. Глядзіць на мяне і плача. А я не магу зразумець, чаму ён плача, калі гэта так смешна, што яны цягнуць па гарачыні нябожчыка. Я дарую яму поўху, бо яна мне — нібы шпітальная жанчына пагладзіла па валасах. А мой стары-карміцель таксама плача. Нездарма кажуць: гады не дадаюць чалавеку розуму. Ён альбо ёсць, альбо яго няма.

Мне навокал было ўсё цікавае. Нібы ўпершыню я ўбачыў вялікі, разлапісты, з патрэсканай ад даўніны карою клён... І нават гэтыя каменьчыкі, якія траплялiся пад ногі, былі асаблівыя, цёплыя. Бы чакалі маёй босай нагі, каб яна адчула іхнюю ласку. Мне захацелася сесці на плот, намацаць сваім целам нагрэтае дрэва і заплюшчыць вочы, каб, нарэшце, зразумець, дзе я і што са мною. Я жывы і ці варта яшчэ аб нечым думаць, турбавацца. Ці так важна, з'ем заўтра сала з бульбаю, ці паем, як гэты стары, зялёнай сакавітай травы? Я ўжо яскрава ўяўляю, што павінен служыць, не раздумваючы, таму чалавеку, чый партрэт на ўсіх хатах і нават на царкве, каля якой я якраз стаю. Крокаў дваццаць ад мяне, нібы вартавы сабака, стары, да якога я амаль прывык. Без яго мне, мусіць, будзе сумна. Можа, зайсці ў царкву, паглядзець, што там, але навошта мяняць цёплую сонечную вуліцу на халодны каменны склеп? Тым больш, што адтуль ужо выходзяць. Спераду ідуць, узяўшыся пад ручку рыжаваты хлопец, ростам не меншы за мяне, і дзяўчына. Што ні кажы, выглядам — салдат. Хоць зараз у бой. А побач з ім — маленькая дзяўчына, бы кацяня. З твару і нічога, мо прыгажэйшая за маю шпітальную жанчыну, але ж — проста клоп. Мне пальцам толькі варухнуць і ад яе застанецца мокрае месца. Якіх народзіць яна салдат, хто служыць будзе нашаму Генералу? І дзе ў гэтага боўдзілы мазгі, няма іх, мусіць, у яго. Была б мая воля, дык спыніў бы вяселле. Якая душа здольна вытрымаць гэткі здзек? І нават не заўважаю, як міжволі цякуць па маім твары слёзы, яны душаць горла і не даюць дыхаць. Плачу наўзрыд, галасна, матляючы ў бакі галавою. Дзіўлюся, што бяжыць да мяне жаніх і кажа:

— Што ты, поскудзь, плачаш, псуеш нам вяселле. Спяваць трэба, радавацца, — і з усяго маху мяне па вуху. Толькі я вырашыў і на гэты раз стрымацца, бо калі смальну яму ў адказ, дык не будзе вяселля. Панясуць хлопца ў доўгай драўлянай скрыньцы, як таго на суседняй вуліцы.

Адно мяне цешыць, што ў жаніха на пінжаку маленькі каляровы партрэт Генерала, які нібы бласлаўляе гэта вяселле, усё роўна як сам прысутнічае тут. І я ўжо спыняю свой плач. Нарэшце разумею, што нікому добрым не будзеш. Усё неяк атрымліваецца блытана і кепска. Я сярод чужых людзей, якія хочуць немаведама чаго. Куды мне ісці, што вырашыць? Я жывы, але не пазнаю сябе. Я плачу, а трэба смяяцца. Я смяюся, а трэба плакаць. Няўжо мне жыць у гэтай забытай Богам вёсцы, калі ў Сусвеце многа паселішч? І я як ад Сонца бачу іх, маленькіх, бы кропелькі вады, з якіх злеплены я.

Я ўзнімаю голаў, пільна ўзіраюся ў неба і там у бліскучых промнях мне ўяўляецца твар нашага Генерала. Ён мне паблажліва ўсміхаецца і пакуль не верыць, што пайду яму служыць. Дарэмна ён не верыць. Для яго я згодны на ўсё. Нават зламаць карак гэтаму старому, што паўзе ўслед за мной, мармыча і плача. Мо і яму ляпнуць спярша па вуху, як той недаростак-мужчына мне. Хай радуецца: я ўспрыняў Генерала, як Бога, і гатоў ісці да яго служыць. Які тут плач, смяяцца трэба, скакаць і спяваць ад шчасця. У мяне ўсё нармальна з галавою, рукамі і нагамі, і я пайду служыць Генералу, каб стаць найлепшым байцом Аховы. Я ім буду, гаворыць мне сонечны прамень, які зноў ушпільваецца ў патыліцу. І плыве перад вачыма воблака, але на ім ужо не Бог, а Генерал. Ён нібы сышоў з усіх партрэтаў і, злучыўшыся ў адно, узняўся да неба.

Бывайце, задрыпаныя хаты, дзед і баба, куры і дрэвы! Трошкі адпачну яшчэ сёння-заўтра і рушу туды, куды мне наканавана. Пайду служыць нашаму Генералу...

***Споўнілася 75 гадоў дачцэ Максіма Гарэцкага, нястомнай прапагандыстцы яго творчасці Галіне Гарэцкай. Віншуем Галіну Максімаўну з юбілеем, зычым ёй доўгіх год жыцця, новых поспехаў, а ўвазе чытачоў прапануем артыкул пра бабулю — маці М. Гарэцкага. Дарэчы, 4 сакавіка мінулася 60 гадоў, як не стала Ефрасінні Міхайлаўны Паповай-Гарэцкай.***

# І “ВЫСПА ПАТМОС СЭРЦА ЁЙ МАЦАВАЛА”

У пачатку зборніка “М. Гарэцкі і А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі” (Менск, 1928) ёсць фотапартрэт Ефрасінні Міхайлаўны, пад якім адзначана, што “песні запісаны ў 1926 годзе... ад Просі Гарэцкай, 66 гадоў, з в. Багацькаўкі, Мсціслаўскага раёна Аршанскай акругі”. Помню, як у 1925 годзе рыхтавалася Ефрасіння Міхайлаўна ісці фатаграфавацца для гэтага зборніка і папрасіла чым-небудзь прыкрыць ёй шыю. Я кінулася ў свой куточак з лялькамі і прынесла ружовую стужачку. Баба Прося, каб пацешыць унучку, так і сфатаграфавалася з гэтай стужачкай на шыі.

У Горках на Магілёўшчыне, дзе жылі мы ў 1926—28 гг., чытала я бабе Просі (яна была непісьменная) урыўкі з бацькавай “Хрэстаматыі беларускае літаратуры. XI в. — 1905 г.” (Вільня, 1922) і крыху з “Выпісаў з беларускае літаратуры. Частка I, 1925 год”. (Улажылі М. Гарэцкі, У. Дзяржынскі, П. Каравай). Любіла баба паслухаць “Аб Галубінай кнізе”, “ Пра Лазара”, “ Пра святую Барбару”. Чытала я:

**“Вялеў пан Круль**
**дробна шкла набіці,**
**Святую Барбару**
**па тым шкле вадзіці...”**

За вакном на лузе, які спускаўся да рэчкі, іскрыўся снег, і ўяўлялася святая Барбара: ідзе па насыпаным вале бліскучага шкла. Думалася, што раз яна святая, то, можа, і не парэжацца.

Казкі баба Прося расказвала, галоўным чынам, пра звяроў, птушак, свойскіх жывёлін. Бывала, што засынала я, агорнутая жалем да коціка, бо ён плакаў:

**Сам кухар**
**пячонку злізаў,**
**На мяне, коціка, сказаў;**
**Будуць мяне,**
**коціка, біці,**
**Будуць мне**
**вушкі церабіці.**

Спакойней слухалася пра чатырох валоў:

**А было ў бабкі**
**чатыры валы,**
**Люлі-люлі,**
**чатыры валы.**
**Прыехала к бабцы**
**чатыры купцы:**
**— Прадай, бабка, воліка!**

У 1931 годзе ўлетку мама мая Леаніла Усцінаўна паехала ў г. Вятку праведаць ссыльнага мужа, а мяне і брата майго Лёню аддала пад нагляд бабы Просі.

У багацькаўскай лазні баба Прося каля ніжняй паліцы ласкава цёпкала мяне бярозавым венікам. Дзядзька мой Гаўрыла Іванавіч успамінаў, як мыла яна калісьці сваіх малых сыноў. Гадоў да чатырох хадзіў ён з маці ў лазню. А пазней, бывала, дома яна пасадзіць яго ў цэбар з разведзеным у цёплай вадзе “золам” (попелам), посцілкаю прыкрые, толькі галава тырчыць. Трэба было пасядзець хвілін колькі, а тады маці цёрла вяхоткай. Так гэта прыемна было, што дзядзька, успамінаючы, жмурыўся салодка, плечы высока падымаў. Мне помніцца, як купаў у лясным ручаі пад Горкамі бацька мой мяне і Лёню. Словы яго з апавядання “Вясна” гучаць:

“Пялешчацца і крукае нехта — нейкі пад гайком на рацэ. Жораў дзетак сваіх купае там на вольным паветры веснавым”.

Помню, як пры выхадзе з горацкай лазні баба Прося купляла з вялізнай бочкі пры дзвярах некалькі буйных мочаных антонавак і самы вялікі жоўты духмяны яблык давала мне, малой. Прыемна было несці дамоў бабін пачастунак.

Помніцца бабіна скрыня вялікая, відаць, пасажная. Часам і для мяне вымалася адтуль цукерка альбо некалькі абрэзачкаў рознакаляровага паркалю, што заставаліся пасля шыцця, — “ляльцы на сукенку”.

Сватацца пачалі да Просі Паповай, калі ёй гадоў шаснаццаць было. Замуж выйшла ў 1884 годзе 20-ці гадоў.

Думаю, што атрымала яна ў пасаг роўна столькі, колькі і Ганна Батура (Задума) у “Камароўскай хроніцы”, прататыпам якой паслужыла. Бацька мой вельмі дакладным быў:

“...Карову рабую рублёў на 15, дзве авечкі, рублі па два кожная; свінню рублі на 4. ...З адзежы ёй далі: шубу белую на заборах і тулуп чырвоны, світку суконную чорную і світку суконную шэрую. Матка дала тры падушкі, коўдру суконную, дзяружку, тры посцілкі, абрусоў, набожнікаў, рушнікоў...” А грошы заможны бацька не даў, хоць і абяцаў.

Без маці Ефрасіння Міхайлаўна засталася ў 1893 г., у той год, калі нарадзіўся сын Максім. Памерла маці яе 50-ці гадоў. Бацька даволі хутка мачаху прывёў.

Нядобрым дысанансам урываецца ў гэтыя ўспаміны танная сенсацыя, якую з нейкіх меркаванняў пусціў у свет С. Дубавец (“Нёман”, N 2, 1993 г.): выказаў думку, што Ефрасіння Міхайлаўна магла памяняць свайго новароджанага сына Максіма на панскае дзіця. А добра ж ведаў С. Дубавец (хаця б па “Камароўскай хроніцы”), што бацька Максіма ў тыя гады ў старой пані не служыў, пан памёр яшчэ ў 1881 годзе, а панскія дзеці сваіх сем’яў яшчэ не мелі. Мяняць немаўлятку сына Ефрасінні Міхайлаўне проста не было на каго... Нават калі б і захацела, на думку С. Дубаўца, учыніць злачынства.

Ефрасіння Міхайлаўна засталася непісьменнай. Бацька яе лічыў, што вучыць дачку не варта (“не дзявоцкі занятак, гэта трэба ўсё галавою”).

Добра помню, як маліліся мае дзед і баба. Ефрасіння Міхайлаўна ў белай хустачцы на галаве доўга стаяла перад абразамі, часам на каленях, а дзед Іван Кузьміч стаяў не дужа доўга. Памаліўшыся, ішоў да свайго ложка і, здымаючы боты, нязменна казаў: “Дзень прайшоў і слава Богу!” Баба малілася ў правай палавіне хаты-пяцісценкі, тварам на паўночны ўсход, а дзед — у левай, у бок паўночнага захаду.



*Ефрасіння Міхайлаўна Гарэцкая -- маці пісьменніка. 1925 г., Мінск.*

Не помню, адкуль ведаю, што быў ён уніятам. У кожнага быў свой невялікі іканастас з доўгімі ручнікамі па баках, аздобленымі вышыўкамі і карункамі.

У Горках, у Мінску Ефрасіння Міхайлаўна хадзіла ў святочныя дні ў царкву. Калі паставала, мама мая варыла ёй посную страву.

Вось што ўспомнілася: калі прыязджаў у Ленінград у камандзіроўку Гаўрыла Іванавіч і спыняўся ў нас, то заўсёды прасіў зварыць “што-небудзь багацькаўскае”. Мы ўжо ведалі, якія стравы ён любіць (усё тое, што варыла калісьці яго маці). І стаяў у тыя дні ў нашай кватэры “багацькаўскі дух”. І абавязкова варыўся для госця ўзвар з сушаных грушак.

З М. Багацькаўкі хадзіла баба Прося маліцца ў царкву Ільі Прарока (помнік архітэктуры класіцызму) у сяле Слаўнаве (цяпер пішуць: Слаўнае), дзе яна нарадзілася 24 чэрвеня 1864 года. Хата бацькі яе стаяла амаль побач з гэтай царквою. Тут і цяпер часам бывае служба. Тут і майго бацьку хрысцілі. У 1983 годзе першапачатковы роспіс пад купалам яшчэ трымаўся. Успомнілася, што эпізод з хрышчэннем Янáчкі — сына дзядзькі майго Парфіра Іванавіча — лёг у аснову апавядання Леанілы Чарняўскай “Веснавыя хмаркі”.

У спадчыну ад маці сваёй атрымаў яе сын Максім моцную любоў да дзяцей. Неяк у бяссонніцу ўзялася я ўспамінаць дзяцей у яго творах. Налічыла больш за сотню, але гэта ўжо асобная гамонка. Абодва любілі яны пачаставаць малых. Ефрасіння Міхайлаўна, помню, выносіла на свой багацькаўскі ганак, дзе збіраліся дзеці, салодкія стручкі гароху, струкі бобу, лясныя арэхі, частавала ўсіх.

Як прыклад дабрыні бабы Просі прывяду бацькаў запіс:

“Сабака.

Мама ехала ў Горкі, да нас, адна. На ст. Горкі ўсе бралі пасажыраў, а мама, ці зазявалася, ці затаргавалася, ці што купляла ў крамцы”, “не хапалася, заеду-заеду, а то й зайду — дарогу ведаю”. Толькі туды, дзе фурманы — стаіць баба з калёсамі.

— Цётачка, падвязу, таргавацца не буду, колькі дасі, хоць дзяцём на баранкі. Прывазіла гаспадара, паехаў у заробкі. Ніхто не сеў, што калёсы мае дрэнныя.

Мала села.

Паехалі, гаманілі.

Мама пытаецца, што ў яе ёсць. Яна казала, што з Горак, ды бедна жывуць, зямлі мала.

— Ёсць конь, карова, свіння адна... А — я, і сабака ж у мяне ёсць... Бег са мною. Згубіцца з людзьмі. Паедзем назад сабаку шукаць. А хоць пастой тут, пакуль я назад.

А ўехалі — за мост, у полі, у палову.

— Не, не паеду. На ўжо сабе тваім дзяцёнкам на баранкі. Ты ўжо за мною сабаку свайго не губі.

— Шкода мне цябе, цётачка, што я цябе зманіла, з другімі ты не паехала...

Мама пайшла, а яна ўжо не дагнала.

Ярына ўжо ўзышла. Маме прыемна было ісці і думаць пра жыццё.

А ці знайшла ўжо яна сабаку, — мама не ведала”.

*(Друкавалася ў “ЛіМе” за 5 жніўня 1983 г., с. 12).*

Ад Горак да М. Багацькаўкі амаль 30 кіламетраў.

Ефрасіння Міхайлаўна зёлкі розныя ведала, лячэнне народнае. Мусіць, з жыцця ўзяты эпізод у “Камароўскай хроніцы”, у якім маці вылечыла незажываючую рану на назе сына гарэлкай, здабытай з ліпы (гналі яе ў канцы агарода, каб не нарабіць пажару).

Памяць баба Прося мела цудоўную. Ведала і такія даўнія песні, у якіх “сталяныя стрэлы” ўпамінаюцца і “Устань, устань, Радзівіла, а ўжо Вільня не наша. А ўжо Вільня не наша, а ўжо белага цара”.

У зборніку “Максім Гарэцкі. Успаміны...”, 1984 г., с. 61-62, ёсць успамін маёй маці пад назваю “Як складалася кніжка народных песень”. Яна казала, што рыхтуючы да друку песні, якія былі запісаны ад Ефрасінні Міхайлаўны, бацька мой “Дзівіўся багаццю матэрыялу, захапляўся глыбінёю зместу, даўнасцю. Казаў: “Я й не думаў, мама, што ты столькі ўмееш, мне здавалася раней, што толькі дзядзіна Хрысцёна пяяць можа”. А яна, ласкава ўсміхаючыся, гаварыла: “Я і сама не ведаю, калі ім навучылася. Каторыя яшчэ ў дзеўках умела, а потым і другім наўчылася. На хрэсьбінах пяём і на вяселлі пяём, жнём — песні заводзім, узімку прадзём і, каб спаць не хацелася, доўгія песні пяём”.

Колькі хараства ў гэтых песнях, у іх зачынах, паўторах, параўнаннях:

**Кукавала зязюля**
**ў садочку,**
**Прыклаўшы галоўку**
**к лісточку...**
**...Плакала Ганначка**
**ў святліцы,**
**Прыклаўшы галоўку**
**к вакніцы...**

**А ўзыйшоў месячык пад**
**былакою (воблакам),**
**Ай узвіў зорачку**
**ўслед за сабою:**
**А свяці, зорачка,**
**перада мною,**
**А ўжо я, месячык,**
**насвяціўся...**
**Уз’ехаў Іванька**
**ды на бацькаў двор,**
**Ах узвёз Ганначку**
**ўслед за сабою:**
**А служы, Ганначка,**
**перада мною,**
**А ўжо я табе**
**наслужыўся:**
**Растаптаў боцікі**
**танцуючы,**
**Распусціў шапачку,**
**паклон б’ючы,**
**Замораў хвустычку**
**ўціраючыся...**

**Медуніца, медуніца**
**лугавая,**
**Чом ні пахніш, чом**
**ні пахніш па ўсём лугу?**
**Як мне пахнуць, як мне**
**пахнуць па ўсём лугу?**
**Крапівіца, крапівіца**
**заглушыла...**

У 1925 годзе кампазітар М. Аладаў уключыў у свой “Квінтэт” і некалькі мелодый песень, якія ён запісаў ад Ефрасінні Міхайлаўны. Мама мая ўспаміняла: “Мы: маці, Максім і я — былі на канцэрце, дзе выконваўся “Квінтэт”. Памятаю, што ўвайшлі “Па гарохаўю, па ячынню”, “Закурыўся дробны дожджык”, “Дзеўкі хмель садзілі”. (Я дапоўню: “Як прыехаў Джанджура”, “Відзіць маё вочка...” — Г. Г.) З якой годнасцю трымалася маці, слухала і мелодыі сваіх песень, гарманізаваных кампазітарам”. (Максім Гарэцкі. Успаміны, 1984, с. 62).

Лёс не быў літасцівым да любай нашай бабы Просі. Трох сваіх дзяцей пахавала зусім маленькімі. У канцы 1922 года трагічна загінула ў Маскве яе дачка Ганна. У 1930-ым годзе новыя ўдары: арышт і высылка сыноў Максіма і Гаўрылы. З Максімам так і не сустрэлася болей. Памерла за якіх паўгода да яго вызвалення з ссылкі і прыезду ў М. Багацькаўку. Памерла ад ушчамлення кішкі, падняўшы з пограба цяжкі кош з бульбай. Як казаў сын яе Максім, “пагінула на сваім баявым пасту і няма ёй нагарады ніякай. Толькі выспа Патмос сэрца ёю мацавала. Таму сэрца ў яе было такое моцнае” (“Полымя”, N 2, 1993 г., с. 34).

Мацавалі сэрца не толькі выспа Патмос (веданне паэтычных песень народных і іншых твораў народнай творчасці), вера ў Бога, а яшчэ і вялікая дабрыня, разуменне людзей і любоў да іх.

**Галіна ГАРЭЦКАЯ**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 332-204**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7500.
Нумар падпісаны 13.3.1996 г.
Заказ 1283/Г

П 123456789101112
М 123456789101112